„Беларускі настаўнік” гэта адукацыйны дапаможнік перш-наперш настаўнікам беларускай мовы ў польскіх школах. Але не толькі. Хочам, каб наш часопіс дапамагаў усім зацікаўленым беларускай адукацыяй, напрыклад гісторыкам і географам, якія ўводзяць на ўроках элементы навучання гісторыі і геаграфіі Беларусі, але таксама Падляшша. Каб пашыраў сярод настаўнікаў веды пра Беларусь і азнаямляў з новымі метадамі навучання. Хочам, каб гэта была таксама настаўніцкая платформа абмену меркаваннямі, праблемамі, досведам.

Часопіс задуманы Аб'яднаннем у карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА. Яго ідэя ўзнікла ў час працы над „Стратэгіяй развіцця асветы беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы”.

„Беларускі настаўнік” выходзіць раз на паўгода. Запрашаем да супрацоўніцтва. Калі маеце цікавыя сцэнарыі ўрокаў або пазаўрочных заняткаў, урачыстых лінеек, школьных мерапрыемстваў, экскурсій, тэатральных спектакляў, калі ў Вас ёсць цікавыя гульні і дыдактычныя матэрыялы, прапануйце іх, з дапамогай нашага часопіса, іншым. Калі ў Вас узніклі пытанні, звязаныя з навучаннем беларускай мове, пішыце.

Матэрыялы і пытанні дасылайце на наш электронны адрас **ab_ba@poczta.onet.eu**. Часопіс „Беларускі настаўнік” даступны ў Вашых школах і на нашым сайце **www.ab-ba.com.pl**.

# Ад рэдактара



Аліна ВАЎРАНЮК

## «Дыназаўры не чыталі і памерлі. Выпадак? Не думаю»,

— такі мой улюбёны кубак, які я набыла на адным з кніжных кірмашоў у Беластоку. Гэта, зразумела, жарт. Ніхто яшчэ не даказаў уплыву кніжак на працягласць жыцця. Тым не менш, на яго якасць — так. А пра ўплыў кніжак на якасць нашай — настаўнікаў — працы, думаю, чытачам гэтага часопіса тлумачыць не трэба.

У нумары многа месца адводзім двум фундаментальным выданням, якія з'явіліся апошнім часам на нашым кніжным рынку: **„Гісторыі беларусаў Падляшша"** — калектыўнай працы Беларускага гістарычнага таварыства ў Польшчы і кнізе Анэты Прымакі-Онішк **„Бежанства 1915. Забытыя ўцекачы".** Хаця гэтыя публікацыі, безумоўна, вельмі розныя, яднае іх тытанічная, доўгая і карпатлівая праца аўтараў. І тое, што абедзве кнігі важныя для беларусаў у Польшчы. „Гісторыя...", бо сістэматызуе параскіданыя па розных выданнях і архівах веды ды малюе цэласную, сінтэтычную карціну нашага мінулага. „Бежанства...", бо апісвае той перыяд і тыя падзеі, якія папраўдзе сфармавалі наша грамадства ў ХХ стагоддзі. Апісвае — трэба сказаць — вельмі таленавіта, вобразна, пераканаўча, выкарыстоўваючы ўсе даступныя сёння вусныя і пісьмовыя крыніцы. Ні аднае, ні другое кнігі не напісалі б аўтары з-па-за Беласточчыны.

Публікуем рэцэнзіі абедзвюх кніг. І, што на маю думку яшчэ больш важнае, сцэнарыі заняткаў з выкарыстаннем выданняў. Я ўпэўненая, што гэтыя заняткі будуць і карысныя, і цікавыя для моладзі.

Рэкамендую таксама інтэрв'ю з Юрыем Туронкам, чые гістарычныя доследы перавярнулі дагары нагамі навейшую беларускую гістарыяграфію. Для нас важна яшчэ і тое, што ён даследаваў і апісаў беларускае школьніцтва ў Польшчы. „Нарыс гісторыі беларускага школьніцтва на Беласточчыне", які мы перадрукавалі ў нумары, Юры Туронак напісаў у 1988 годзе, але яго высновы актуальныя і сёння.

Жадаю прыемнага чытання і паспяховага выкарыстання зместу „Беларускага настаўніка" на практыцы.

**Аліна ВАЎРАНЮК**

# Спадар



Мікола ВАЎРАНЮК

Аўтабіяграфія **Юрыя Туронка** „За кардонам Бацькаўшчыны" магла б называцца „З Бацькаўшчынай у сэрцы", бо выдатны даследчык навейшай беларускай гісторыі ў сваім жыцці заўсёды кіраваўся азімутам: Беларусь. Гэта не раз, як сам піша, выклікала здзіўленне беларускіх калег: „Як, жывучы ўсё жыццё ў літоўскім і польскім асяроддзі, я дайшоў да беларускасці?". Адказ на гэтае пытанне надзвычай просты і знаходзім яго ўжо ва ўступе кнігі: „Я не меў патрэбы даходзіць да беларускай нацыянальнай свядомасці. Яна была натуральным вынікам сямейнага патрыятычнага ўзгадавання, паводле якога маёй Бацькаўшчынай мелася быць Беларусь, а не тое ці іншае месца пражывання"[1].



**Юры ТУРОНАК** — гісторык, эканаміст, дзеяч беларускай меншасці ў Польшчы. Нарадзіўся ў 1929 годзе ў Дукштах на Віленшчыне. Сын вядомага заходнебеларускага палітычнага дзеяча, лекара Браніслава Туронка. Скончыў Галоўную школу планавання і статыстыкі ў Варшаве (1952). Працаваў у Польскай палаце замежнага гандлю, у рэдакцыі часопіса «Rynki Zagraniczne».

З пачатку 1960-х займаецца вывучэннем гісторыі беларускага нацыянальнага руху, беларуска-польскіх дачыненняў у XX стагоддзі, беларускага школьніцтва ў Польшчы. У 1986 годзе ў Варшаве абараніў доктарскую дысертацыю «Беларусь пад нямецкай акупацыяй».

Аўтар кніг: «Беларускае школьніцтва на Беласточчыне» (1976), «Памяці Браніслава Туронка» (1990), «Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі» (1992), «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» (1993), «Беларуская кніга ў Другой Рэчы Паспалітай» (2000), «Беларуская кніга пад нямецкім кантролем» (2002), «Людзі СБМ» (2006). У 2006 годзе ягоныя ранейшыя працы былі перадрукаваныя ў зборніку «Мадэрная гісторыя Беларусі». У 2010 годзе выдаў аўтабіяграфію «За кардонам Бацькаўшчыны».

[1] Ю. Туронак, *За кардонам Бацькаўшчыны*, Мінск: „Медысонт", 2010, с. 9.



Шлюбны партрэт, 26.12.1960 г.

мне вядомай з маладосці кватэры спадарства Туронкаў — на дванаццатым паверсе блока на вуліцы Тамка ў Варшаве.

— Так, пайшоў у афіцэрскую школу, якую скончў у 1939 годзе. Як прыйшлі саветы, хаваўся ад іх недзе ў Літве. Потым быў у Арміі Краёвай і ваяваў на Ашмяншчыне з літоўцамі, а пасля вайны ўцёк у Польшчу.

**— Яшчэ адзін складаны лёс беларускай інтэлігенцкай сям'і. У кніжцы „Памяці Браніслава Туронка" пішаце, што з-за гэтага Ваш бацька спыніў адносіны са сваім братам[2]. На гэтай самай старонцы можам прачытаць таксама, як бацька выбіў Вам папругай захапленне польскай мовай. Мала адукацыйны прыклад у сённяшні час, але ў Вашым выпадку спрацаваў. Вы ніколі ў жыцці, незалежна ад абставін, не мелі ахвоты адракацца ад беларускасці.**

— Мама вучыла чытаць і пісаць па-беларуску лацінкай і кірыліцай. Памятаю таксама, як малодшы брат бацькі, Віцька, які вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, прыязджаў да нас на святы. Мы строілі ёлку, а ён дэкламаваў Купалу:

*Вучыся нябожа, вучэнне паможа*
*Змагацца з нядоляй, з няволяй...*
*Што мучыць сягоння,*
*што думкі трывожа, —*
*Збяжыць і ня прыйдзе ніколі.*

— А Віцька потым стаў палякам, — уключаецца ў размову жонка спадара Юрыя, Зіна, якая тым часам паставіла на стол гарбату і печыва сваёй работы, легендарны смак якога пазнаў я яшчэ ў студэнцкія гады. Размаўляем у таксама добра

— Такое я атрымаў выхаванне. Мае бацькі паходзілі з дзвюх ускраін Беларусі: мама Марыя з-пад Беластока, а тата Браніслаў — з Дзісненшчыны. У хаце гаварылі на літаратурнай мове і так вучылі нас, дзяцей. Хаця вакол нас — у мястэчку Дукшты, на поўнач ад Вільні — было польска-яўрэйска-літоўскае асяроддзе. Я ні гадзіны не вучыўся ў беларускай школе. Спачатку — у 1936 годзе — пайшоў у польскую, якая ў 1939 годзе стала літоўскай, год пазней савецкай (да сёння памятаю песню: *С неба полуденного жара*

[2] Ю. Туронак, *Памяці Браніслава Туронка*, Ню Ёрк: Беларускі інстытут навукі й мастацтва — Варшава, 1990, с. 53.

*не подступи, Конная Буденного раскинулась в степи*). У час вайны я вучыўся ў літоўскай гімназіі ў Вільні, а пасля рэпатрыяцыі ў 1945 годзе ў розных школах Польшчы. Калі мы пераехалі, я вельмі слаба ведаў польскую мову.

**— Што Вас прымусіла пакінуць родны дом у Дукштах?**

— Маё шчаслівае дзяцінства абарвалася ў верасні1938 года, калі раптоўна памёр бацька. Ён прастудзіўся, плывучы да хворага на маторнай лодцы праз Дзісенскае возера. Да таго часу мы ўжо абжыліся ў Дукштах, мелі вялікі дом, якім займалася мама, бацька няблага зарабляў як лекар, я хадзіў у школу... Калі памёр бацька, мне было дзевяць гадоў, маім братам: Андрэю сем, Міхасю тры, а маме трыццаць тры. Мама пасля смерці бацькі хацела вяртацца ў сваю родную старонку, але вайна, чарговыя змены ўлады, новыя граніцы — не да таго было. Але калі ў час ваенных дзеянняў летам 1944 года ад агню кацюшаў згарэў наш дом, у Дукштах не было за што трымацца.

**— Але ж і на Беласточчыне, як пішаце ў кнізе „За кардонам Бацькаўшчыны” ніхто Вас не чакаў: „... дзядзькі і цёткі мелі свае сем’і і невялікія хаткі, а атрымаць кватэру ў разбураным Беластоку было немагчыма[3]. Сям’я раздзялілася, Вы пачалі вучыцца ў ліцэі ў Беластоку.**

— На Варшаўскай вуліцы. Тут і вылезлі мае недахопы ў польскай мове. Настаўнік матэматыкі ўзяў мяне да дошкі і і пытае, колькі будзе *dwa do potęgi drugiej*. А я не ведаю, чаго ён ад мяне хоча. Ён думаў, што я не чую і паўтарае пытанне, а я ж тады яшчэ добра чуў, не тое, што цяпер, — смяецца спадар Юры. — Я прызнаўся, што не разумею, бо прыехаў з Вільні. То можна па-руску, кажа ён.



Юры і Зіна.

А ў мяне ў школе і рускай мовы не было, кажу. А якая? Літоўская. Ну, літоўскай то я не ведаю, адказвае настаўнік. Да таго мяне ў I Гімназіі ў Вільні вучылі гісторыі крыху па-іншаму. Калі мы загаварылі пра Грунвальдскую бітву, то я з поўным перакананнем сказаў пра перамогу Вітаўта Вялікага над крыжакамі. І дадаў, што Ягайла ў той час сядзеў у палатцы і маліўся. Цэлы клас смяяўся. А я за свой адказ атрымаў двойку.



Сям’я ў поўным складзе: Зіна і Юры з дочкамі: Наталяй (старэйшая) і Ганяй.

3 Ю. Туронак, *За кардонам...*, с. 72.



З унукам Алянам у Трыпуцях.

— Ты не меў дзе прыслухацца да польскай мовы, бо падбеластоцкія вёскі гаварылі па-беларуску, — уключаецца ў размову спадарыня Зіна. — Памятаеш, як мы намнога пазней, да маёй дыпломнай працы запісвалі таго дзядзьку з вёскі тваёй мамы — Рушчанаў каля Харошчы...

— Так, Зіноўку. Ён пра войска нешта расказваў. Я яму потым даў паслухаць той магнітафонны запіс, а ён пытае: гэта што, Мінск гаворыць? Не пазнаў свайго голасу. А гаварыў чысцютка па-беларуску.

**— Вы неўзабаве пакінулі Беласток.**

— Мама жыла ў Растэнбургу, цяпер Кентшын, каля Ольштына. Паехаў я да яе і стаў вучыцца ў Ольштыне. Там было лягчэй, бо папаў у асяроддзе рэпатрыянтаў, такіх як і я. Адзін з калег нават падараваў мне частку парванай кнігі Язэпа Найдзюка „Беларусь учора і сяння". Яна мне нагадвала, каб не толькі не забываць беларускую мову, а ўвесь час вучыцца, паглыбляць свае веды пра Беларусь. У час вучобы ў сярэдняй і вышэйшай школах не было на гэта многа часу, але пасля — так. Я купляў кнігі, удасканальваў мову, знаёміўся з літаратурай. Як стваралася Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў 1956 годзе, то мяне хлопцы, з якімі мы арганізавалі варшаўскі аддзел — Мацей Канапацкі, Віктар Лэпкоўскі, Юрка Бусловіч — называлі грамацеем.

**— Таму Вы былі натуральным кандыдатам на кіраўніка Навуковага гуртка БГКТ.**

— Гэта, аднак, было ўжо пазней, у 1970 годзе.

**— Хаця Вы па адукацыі эканаміст, то ў гуртку засярoдзіліся на гісторыі Беларусі. Як самі пішаце ў аўтабіяграфіі: „Грамадскія патрэбы абудзілі ўва мне гісторыка"[4].**

— Я спачатку думаў займацца вывучэннем эканомікі Беларусі, але не знайшоў зразумення ні ў Мінску, ні тым больш

4 Ю. Туронак, *op. cit*., с. 158.

у Варшаве. У Мінску мне сказалі, што лепш, каб я даследаваў эканоміку Польшчы. А ў Варшаве ніхто не глядзеў на Беларусь як суб'ект, а ўспрымалі яе як частку Савецкага Саюза. Дзесьці з пачатку 1960-х гадоў стаў я вывучаць і апісваць беларускае школьніцтва на Беласточчыне і так пайшло.

**— Пасля Вашага даклада, калі не памыляюся, у 1988 годзе ў Беластоку, абвінавацілі Вас у тым, што Вы параўналі стан беларускай асветы на Беласточчыне ў час нямецкай акупацыі і ў 1980-я гады. Параўнанне атрымалася, мякка кажучы, не на карысць Польскай Народнай Рэспублікі.**

— Даклад я рыхтаваў на з'езд настаўнікаў у Бельску, але ці я там рабіў такое параўнанне? Не памятаю.

— Мог такое сказаць, — спадарыня Зіна ўсміхаецца. — Аднак да Туронка цяжка было прычапіцца, бо ён свае словы падпіраў лічбамі. У яго статыстыка на першым месцы.

**— Абапіраючыся на статыстыку і, перш-наперш на дакументы, Вы паказалі залежнасць навучання беларускай мовы не столькі ад жадання народа, а ад палітычных рашэнняў.**

— Так. Ніхто не пытаў жыхароў Беласточчыны, калі ліквідавалі беларускае школьніцтва ў 1946 годзе і ніхто не пытаў, калі яго ўваскрашалі ў 1949 годзе. У другім выпадку яўна не абышлося без умяшальніцтва Савецкага пасольства ў Варшаве. Пра гэта, дарэчы, казала мне дырэктар Архіва новых акт Браніслава Скшэшэўская, калі я вывучаў там дакументы датычныя школьніцтва: *Nie można opierać się jedynie na statystyce. W pierwszych latach powojennych na studia do Warszawy przyjeżdżało dużo ludzi z Białostocczyzny i oni chodzili do Ambasady Radzieckiej ze skargami, jaką to szkodę uczyniła im Polska likwidując szkolnictwo białoruskie*. Здаецца, ведала, што гаворыць, бо яе муж Станіслаў Скшэшэўскі быў міністрам асветы. Пра актыўную ролю Польскай аб'яднанай рабочай партыі пісаў я ў дакладзе на навуковай сесіі прысвечанай 20-годдзю БГКТ. Пазней Сакрат Яновіч выдаў гэты даклад асобнай брашурай[5].

Або возьмем колькасць дзяцей і моладзі, якія вывучалі беларускую мову. Нягледзячы на чарговыя захады асветных улад па змяншэнні ролі беларускай

З жонкай Зінай і ўнукам Алянам.



[5] Ю. Туронак, *Беларускае школьніцтва на Беласточчыне ў пасляваенны перыяд*, Беласток 1976.



Юры Тронак выступае на з’ездзе БГКТ.

мовы, якія наглядаліся з пачатку 1960-х гадоў[6], лік вучняў быў стабільны — каля 11 тысяч. Рэзка ўпаў толькі ў 1972 годзе, а тады якраз з пасадай першага сакратара Ваяводскага камітэта Польскай аб’яднанай рабочай партыі развітаўся Аркадзь Лашэвіч[7]. Супадзенне? Не думаю. Усё паказвае на тое, што Лашэвіч не пускаў у ход некаторых некарысных распараджэнняў адносна навучання беларускай мовы. З Лашэвічам, дарэчы, у мяне адна асабістая гісторыя, якой я да сёння не разумею.

**— Чую, што ёсць інтрыга.**

— Летам 1956 года прыехаў з Беластока ў Варшаву Аляксей Казёл[8]. Мы сустрэліся, шпацыравалі па Кракаўскім прадмесці. Ён даў мне запіску і папрасіў перадаць яе Лашэвічу, які ў той час працаваў у Галоўнай пракуратуры. А Галоўная пракуратура і мая рэдакцыя часопіса „Rynki Zagraniczne” былі ў тым самым будынку.

— На вуліцы Трэмбацкай, — удакладняе спадарыня Зіна.

— Так, так... Мы нават адну сталоўку мелі. Я паабедаў і пайшоў у частку будынка, якую займала пракуратура. На той час

6 „Сваёй інструкцыяй ад 17 лістапада 1962 г., накіраванай беластоцкай куратарыі, міністэрства асветы ўпершыню закваліфікавала беларускую мову ў польскамоўных школах як дадатковы факультатыўны прадмет і, без кансультацыі з бацькамі, дазволіла кіраўнікам школ вызваляць вучняў ад абавязковага вывучэння роднай мовы”. Ю. Туронак, *За кардонам...*, с. 185-186.

7 Аркадзь Лашэвіч (1916-1985) – дзеяч Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, пасля вайны – Польскай аб’яднанай рабочай партыі. У 1944 годзе стаў начальнікам Управы інфармацыі і прапаганды ў Беластоку, ад 1947 па 1949 быў старшынёй Ваяводскай камісіі партыйнага кантролю ў Беластоку. У 1949-1952 г.г. у Цэнтральнай камісіі партыйтынага кантролю Польскай аб’яднанай рабочай партыі. Ад 1952 года па красасавік 1956 – першы сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Жэшаве. Ад красавіка па снежань 1956 – намеснік Генеральнага пракурора Польскай Народнай Рэспублікі. Ад 01.12.1956 г. па 31.12.1971 г. – першы сакратар Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку. Затым, да 1980 года – член Цэнтральнай рэвізійнай камісіі ПАРП. Быў таксама дэпутатам Сойма ПНР (1952-1957 і 1961-1976) і членам ЦК ПАРП (1964-1971).

8 У той час сакратар Галоўнага праўлення БГКТ.

я не ведаў, хто такі Лашэвіч, але паабяцаў жа перадаць цыдулку. Знайшоў яго кабінет, там такая была ветлівая сакратарка і ўпусціла мяне. Сядзіць Лашэвіч за бюркам і здзіўлены пытае: *Jak żeście tutaj doszli? — Razem pracujemy. Ja w Polskiej Izbie Handlu Zagranicznego*. Перадаў я яму тую запіску ад Казла і больш ніколі Лашэвіча не бачыў. А калі Лашэвіч стаў першым сакратаром Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку, кіраўнікі Беларускага грамадска-культурнага таварыства — Казёл, Давідзюк, Станкевіч — сталі да мяне адносіцца з увагай. Далі мне паўнамоцтвы рэпрэзентаваць БГКТ у Варшаве і Варшаўскім ваяводстве і, крыху пазней, службовую легітымацыю са здымкам.

**— Цікава. Як гэтая прыслуга падняла Ваш прэстыж у вачах беларускіх партыйных стаўленікаў.**

— Была яшчэ адна цікава падзея, якая паўплывала на тое, як на мяне глядзелі ў Беларускім таварыстве. У 1957 годзе арганізаваў я экскурсію студэнтаў беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта ў Мінск, Гомель, Наваградак. Апекавалася намі арганізацыя БелОКС[9], па сутнасці філіял беларускай бяспекі, дык нічога нам не бракавала, акрамя свабоднага часу. Тады я пазнаёміўся са студэнткай Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Ефрасінняй, з якой пазней хацеў сустрэцца, каб абмеркаваць жыццёвыя пытанні.

Другі раз я паехаў у Мінск у красавіку 1958 года. На той час быў я старшынёй Варшаўскага аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства, апублікаваў ужо некалькі артыкулаў у „Ніве", дык прозвішча там дзе трэба было вядомае. У Мінску запрасілі мяне ў рэдакцыю газеты „Літаратура і мастацтва" і папрасілі зачытаць ім даклад пра БГКТ. Ахвотна, але ж раней у іх была дэлегацыя з Беластока, у тым ліку Казёл і Георгій Валкавыцкі, чаму іх не прасілі? Ну, зачытаў я даклад, які потым быў надрукаваны ў „ЛіМе", за які мне яшчэ да друку заплацілі вялікі ганарар — 350 рублёў. Тады запрасілі мяне на ганаровую трыбуну ў час першамайскага шэсця. Я стаяў побач Максіма Танка і вельмі ў ім расчараваўся, бо чуў як ён да дачок гаворыць па-руску.



Атрасіны беларускіх студэнтаў — Варшава 1985. Першая злева — Хрысціна Галіцкая, за Ю. Туронкам — Янка Жамойцін, Віктар Швед, Хведар Галёнка, Сяргей Мартыновіч.

9 БелОКС — Белорусское общество дружбы и культурной связи с зарубежными странами.



Навукова-гістарычная канферэнцыя Беларускага аб'яднання студэнтаў у Мельне каля Ольштына — май 1989. Злева: Міраслаў Урбановіч, Сакрат Яновіч, Яўген Вапа, Юры Туронак, Яўген Міркановіч, Андрэй Гаўрылюк.

— А ты думаў, што ўсе беларусы, як ты, будуць усюды і з усімі гаварыць па-беларуску, — смяецца спадарыня Зіна.

— Ну, прынамсі са мною стараліся гаварыць. У нашым клубе на Сенатарскай[10] царыла беларуская мова. Колькі б выпускнікі ліцэяў у Гайнаўцы ці Бельску не стараліся між сабою пшэкаць, то да мяне адзываліся толькі па-беларуску.

— За гэта ты і атрымаў мянушку „нацыяналіст", — кажа Зіна.

— Са мною нават агент савецкай бяспекі, які прыехаў у Варшаву ў снежні 1958 года гаварыў на прыгожай беларускай мове.

**— Адкуль Вы ведаеце, што гэта быў агент бяспекі?**

— Паўстагоддзя пазней Лена Глагоўская знайшла ў польскім Інстытуце нацыянальнай памяці справаздачу савецкага разведчыка «Бурана», які прыехаў у Польшчу дзеля таго, каб даследаваць дзейнасць беларускіх нацыяналістаў. У той справаздачы «Буран» выказваўся прыхільна аб падрабязнасцях майго прабывання ў Мінску. Пасля тае трыбуны я быў у гасцях у супрацоўніка „ЛіМа" Алеся Бажко. Мы прыемна правялі час з ім і ягонай жонкай, якая дарэчы таксама гаварыла на прыгожай беларускай мове. Праз некалькі месяцаў Бажко прыехаў у Варшаву, але пад псеўданімам «Буран». Аднак з аднолькава пазітыўным стаўленнем да мяне. У той час спецслужбы БССР уплывалі на Ефрасінню, каб яна не звязвалася з чужаземцам. А гэта ж быў асноўны матыў маіх мерапрыемстваў у Мінску.
Такі вось адказ на Вашае запытанне.

**— Улічваючы рэаліі эпохі, разумею, што зацікаўленасць савецкай бяспекі Вашай асобай давала Вам, парадаксальна, спакой ад польскай.**

— Дакладна так. Польская бяспека не адважылася перабегчы дарогу сваім савецкім калегам. Тут я меў спакой.

10 Сядзіба Варшаўскага аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства — на вуліцы Сенатарскай, 8 (1956-1988 гг.).

**— А чаму гэта, як Вы сказалі, паўплывала на Вашу пазіцыю ў БГКТ?**

— Ну, я ж стаяў на трыбуне разам з найважнейшымі ў той час людзьмі ў БССР. Дадам яшчэ, што тады вучыліся ў Мінску Аляксандр Баршчэўскі і Мікола Гайдук, але іх не запрашалі на трыбуну. Гэта мяне не раз ратавала ад нападкаў з боку партыйных актывістаў у Беларускім таварыстве, якія ахвотна мяне з'елі б за маю незалежнасць, але баяліся, што я ім не па зубах.



**— Незалежнасць праявілі Вы таксама ў Вашых гістарычных публікацыях. Ніхто па сутнасці да Вас не разглядаў Беларусі, беларускага руху ў час Другой сусветнай вайны як суб'екта. След сказаць, што і сёння, трыццаць-сорак гадоў пасля Вашых артыкулаў і кніг у Беларусі дамінуе савецкая гістарыяграфія, паводле якой беларусы разам з астатнімі народамі СССР толькі тое і рабілі, што змагаліся з гітлераўцамі. Ці былі ў Вас непрыемнасці ў Беларусі з-за Вашых навуковых прац?**

— Калі я ўсур'ёз заняўся біяграфіяй Вацлава Іваноўскага, а затым акупацыяй, то крыху знізіў актыўнасць на грамадскай ніве. Працаваў пераважна ў польскіх архівах. Адышла патрэба і ахвота ездзіць у Беларусь, дык асабліва не перажываў за тое, якую ацэнку маім доследам дасць беларуская партыйная вярхушка. А навуковае асяроддзе, спачатку ў Польшчы, затым і ў Беларусі ўспрыняло мае працы вельмі добра. Чытаюць мае працы і спасылаюцца на іх.

**— Памятаю абарону Вашай доктарскай дысертацыі „Беларусь пад нямецкай акупацыяй" у Польскай акадэміі навук. Быў я ў групе тадышніх студэнтаў, якіх вы вучылі не толькі гісторыі, але і нацыянальнай годнасці. Памятаю ўрачысты настрой, пачуццё гонару і наша хваляванне.**

— Ну, на ўрачыстасці можна і хвалявацца, але ў навуковай працы я ніколі не кіраваўся эмоцыямі. Проста сумленна гартаў дакументы і аб'ектыўна іх аналізаваў. Дарэчы, у мяне шмат дакументаў, артыкулаў і рукапісаў па гісторыі беларускага школьніцтва, да якіх я ўжо не загляну. Я хацеў бы перадаць іх вам, можа спатрэбяцца. Можа Славамір Іванюк, як архівіст імі зоймецца?

Спадарыня Зіна прыносіць шэсць тоўстых папак, на якіх рукою Юрыя Туронка напісана, якіх гадоў датычаць дакументы і якая іх тэматыка.

**— Вялікі дзякуй. Тады падарунак за падарунак: свежая, проста з друкарні кніга „Гісторыя беларусаў Падляшша”[11].**

— О, цікава! Ёсць у ёй нешта ад мяне?

**— Амаль усе аўтары прайшлі Вашу гістарычную школу. Без Вас, смела магу сказаць, не было б гэтай кнігі. Дарэчы, наколькі Вы былі важнай асобай для майго пакалення, сведчыць тое, што мы ў студэнцкія гады звалі Вас адным словам: Спадар. Абавязкова з вялікай літары!**

**Размаўляў Мікола ВАЎРАНЮК**

[11] *Historia Białorusinów Podlasia*, red. S. Iwaniuk, O. Łatyszonek, Białystok 2017.

# Нарыс гісторыі беларускага школьніцтва на Беласточчыне

Юры ТУРОНАК

На пачатку адна агаворка: у апошнія гады няма на Беласточчыне беларускага школьніцтва, ёсць толькі навучанне прадмета беларускай мовы ў польскамоўных школах. Аднак раней такое школьніцтва было, у сувязі з чым тэму майго выступлення «Нарыс гісторыі беларускага школьніцтва на Беласточчыне» патрактуем умоўна.

Беларускае школьніцтва на гэтых землях мае ўжо звыш 70-гадовую гісторыю, на жаль, мала вядомую. Не будзем сёння прадстаўляць яе падрабязна — па-першае, на гэта спатрэбілася б салідная манаграфія, і па-другое, нягледзячы на перашкоды з боку міністэрства ўнутраных спраў у мінулых гадах, паявілася нямала публікацый у гэтай справе. Таму спынімся на некаторых аспектах гэтай гісторыі, найбольш істотных для высвятлення пытання, ад чаго залежыць функцыянаванне гэтага школьніцтва — ад дзяржаўных улад ці зацікаўленых бацькоў, словам, пытання, якое амаль 40 гадоў з'яўляецца прадметам пастаянных, нярэдка вострых, кантраверсій. Разгледзім гэтае пытанне не толькі праз прызму пасляваеннай рэчаіснасці, але ад пачатку.

Да Першай сусветнай вайны не было на Беласточчыне беларускіх школ. Было гэта вынікам русіфікатарскай палітыкі царызму, які не прызнаваў асобнасці беларускай мовы і лічыў яе дыялектам




рускай мовы. Гэтае становішча змянілася з пачаткам нямецкай акупацыі. Вось жа, на занятых абшарах царскай Расіі нямецкая ваенная адміністрацыя спаткалася з сапраўдным кангламератам нацый і моў. Жылі тут літоўцы, беларусы, латышы, палякі, жыды, крыху рускіх і іншых. У такіх умовах быў прыняты прынцып раўнапраўнасці ўсіх моў. На падставе гэтага прынцыпу ў снежні 1915 г. камандуючы ўсходнім фронтам фельдмаршал Гіндэнбург выдаў распараджэнне аб арганізацыі школ, якое пастанаўляла, што навучанне ў школах павінна адбывацца на роднай мове насельніцтва. На Беласточчыне такую магчымасць атрымала беларускае, польскае і жыдоўскае насельніцтва.

Улічваючы адсутнасць традыцыі, недахоп настаўнікаў, падручнікаў і літаратуры, беларусам было вельмі цяжка выкарыстаць гэтую магчымасць. Таму справа ажыццяўлялася паступова, але паслядоўна. У кастрычніку 1916 г. была адкрыта беларуская настаўніцкая семінарыя ў Свіслачы, у якой на працягу двух гадоў яе існавання на 6-месячных курсах атрымалі адпаведныя кваліфікацыі да працы ў беларускіх школах 144 настаўнікі. Адначасова ў Вільні быў наладжаны выпуск беларускіх падручнікаў, тэксты якіх былі яшчэ да вайны падрыхтаваны Беларускім выдавецкім таварыствам.

У выніку гэтых намаганняў пачалі ўзнікаць і хутка расці першыя беларускія школы. У г.зв. Беластоцка-Гродзенскай акрузе сетка гэтых школ развівалася такім чынам:

• кастрычнік 1916 — 3 школы;
• снежань 1917 — 46 школ;
• вясна 1918 — 79 школ;
• вясна 1919 — 153 школы.

Узнікае пытанне, а як само беларускае насельніцтва аднеслася да сваёй школы? Пытанне істотнае, паколькі беларуская школа была для беларусаў абсалютнай навацыяй, а нацыянальная свядомасць беларусаў толькі пачынала фармавацца. Вось жа, як паказваюць архіўныя дакументы, гэтыя адносіны не былі аднолькавыя. Тады як праваслаўная частка насельніцтва абрала беларускую школу, то каталіцкая частка, галоўным чынам на Сакольшчыне, супраціўлялася адкрыванню беларускіх школ. Гэты супраціў быў вынікам супрацьдзеяння каталіцкага духавенства, якое імкнулася прышчапіць беларускім дзецям польскую школу. Між іншым, ксяндзы пагражалі духоўнымі санкцыямі, адмаўлялі ў споведзі і прычасці тым бацькам, якія пасылалі ці хацелі пасылаць сваіх дзяцей у беларускую школу. Адмаўляліся таксама вучыць рэлігію па-беларуску, а дзецям забаранялі карыстацца падручнікамі катэхізму на гэтай мове. Таму ў 1917 г. у каталіцкіх асяроддзях узнікла толькі некалькі беларускіх школ. Становішча палепшылася, калі ў 1918 г. віленскім біскупам быў прызначаны літовец Юры Матулевіч. Дзякуючы яго распараджэнням апазіцыя ксяндзоў паслабела і ў 1918/19 школьным годзе на пераважна каталіцкай Сакольшчыне было ўжо 40 беларускіх школ.

Як бачым, узнікненне беларускага школьніцтва на Беласточчыне было вынікам не ініцыятывы і дамаганняў насельніцтва, а акрэсленай палітыкі ўлад, у дадзеным выпадку нямецкіх, якая грунтавалася на прынцыпе прызнання беларускай нацыі і грамадскага значэння беларускай мовы і выявілася ў стварэнні неабходных умоў для рэалізацыі гэтага прынцыпу.

Вясной 1919 г., пасля эвакуацыі нямецкай арміі, Беласточчыну заняла польская армія, і неўзабаве тры паветы — Беластоцкі, Бельскі і Сакольскі — былі далучаны да польскай дзяржавы. Як вядома, адносіны польскіх улад да беларускага школьніцтва ў Заходняй Беларусі былі адмоўныя, хаця школьны закон ад 1924 г. прадугледжваў магчымасць яго дзейнасці. Аднак гэты закон не прымяняўся на Беласточчыне, якая не лічылася «ўсходнімі крэсамі». Ужо ў 1919 г. усе беларускія школы былі тут ліквідаваны і на працягу міжваеннага 20-годдзя не аднавілі дзейнасці. У бібліятэках і архівах засталіся толькі сведчанні змагання насельніцтва за беларускую школу, асабліва ў часы Грамады.

Такім чынам, польская школьная палітыка міжваеннай пары была адваротнасцю нямецкай палітыкі і грунтавалася на прынцыпе непрызнавання культурнамоўнай самабытнасці беларускай нацыі, а таксама на імкненні да яе паланізацыі. На шляху да такой мэты беларуская школа магла быць толькі перашкодай.

Аднак такое становішча працягвалася толькі 20 гадоў. У верасні 1939 г., у выніку дзеянняў дзвюх саюзных армій, II Рэч Паспалітая перастала існаваць. Беларускія і польскія абшары Беласточчыны ўвайшлі ў састаў Беларускай ССР. У гэтым часе адносіны савецкай улады да школьнай справы нагадвалі такія ж адносіны немцаў у час Першай сусветнай вайны, г.зн. школьнае пытанне зноў вырашалася на падставе роднай мовы насельніцтва, з той толькі розніцай, што савецкія органы неахвотна давалі беларускую школу беларускамоўнаму каталіцкаму насельніцтву, спрыяючы яго далейшай паланізацыі нават ва ўмовах нібыта беларускай дзяржавы. Затое ў асяроддзях з перавагай праваслаўнага насельніцтва беларуская школа арганізавалася нават тады, калі насельніцтва патрабавала рускую школу. Так было створана на Беласточчыне каля 270 беларускіх пачатковых школ, шмат сярэдніх школ і Педагагічны інстытут у Беластоку.

Заўважым яшчэ раз: і ў гэтым перыядзе гісторыі, у гадах 1939-1941, пытанне мовы навучання ў школах вырашалася дзяржавай згодна з яе нацыянальнай палітыкай, а не бацькамі школьнай моладзі.

У гэтых адносінах даволі цікавымі былі першыя два гады другой нямецкай акупацыі, г.зн. школьныя гады 1941/42 і 1942/43. У той час спасярод сямі паветаў Беластоцкай акругі толькі ў адным Бельскім павеце існавала даволі значная сетка пачатковых школ. У выніку захадаў войта Бельскай гміны, Ярослава Кастыцэвіча, нямецкі павятовы стараста даў сваю «прыватную» згоду на аднаўленне працы школ, зыходзячы з таго, што ўлады Беластоцкай акругі не выдалі ў гэтай справе ніякіх распараджэнняў. Таму і школы былі «прыватныя», г.зн. арганізаваліся і ўтрымліваліся бацькамі вучняў. Як жа вырашалася пытанне мовы навучання ў такіх школах? Стараста гэтым не цікавіўся і сказаў: «Няхай вучацца на такой мове, на якой хочуць». Праведзеныя мною падрабязныя доследы, апублікаваныя ў 1976 г., паказваюць, што ў гэтым часе размяшчэнне беларускіх і польскіх школ амаль ідэальна супадала з размяшчэннем школ у савецкі перыяд.

Цяпер можам зрабіць чарговую заўвагу: у гэтых спецыфічных умовах, калі на Беласточчыне не было ні польскай, ні савецкай дзяржаўнасці, абедзве катэгоры насельніцтва — беларусы і палякі — арганізавалі школы на сваёй роднай мове, і ніякіх канфліктаў не было. Інакш кажучы, не назіралася сярод беларусаў імкненне арганізаваць у сябе польскія школы, акрамя двух ці трох выпадкаў, абумоўленых адсутнасцю беларускага настаўніка. У гэтых адносінах нетыповы быў трэці год акупацыі, калі пачала дзейнічаць «палітыка». Тады праводзілася дыскрымінацыя польскага школьніцтва, а беларускаму было дазволена пашырыцца на ўсю беларускую частку Беластоцкай акругі.

Летам 1944 г., пасля адступлення немцаў, становішча было даволі складаным. Не было вядома, як будзе вызначана дзяржаўная граніца, у сувязі з чым на Гайнаўшчыне арганізатарамі школ часта былі савецкія партызаны, а ў іншых раёнах — органы ПКНВ. Дарэчы, фронт яшчэ стаяў на Вісле, у Варшаве былі немцы, а ведамства асветы ПКНВ у Любліне толькі пачынала разгортваць сваю дзейнасць. У такіх умовах аднОўленыя ў савецкі час беларускія школы, якія праіснавалі ў час нямецкай акупацыі, цяпер проста працягвалі сваю дзейнасць. Гэты стан фактычна пакуль што не выклікаў засцярог люблінскіх улад, якія больш увагі аддавалі арганізацыі сярэдніх школ. Паводле афіцыйных даных, у 1944/45 г. працавалі на Беласточчыне 81 школа з беларускай мовай навучання і 12 школ двухмоўных або з прадметам беларускай мовы. Акрамя таго, былі адкрыты беларускія гімназіі ў Бельску і Гайнаўцы і руска-беларуская гімназія ў Беластоку.

Не будзем займацца тагачаснымі цяжкасцямі ў працы беларускіх школ,

паколькі ў вялікай меры адносіліся яны і да польскіх школ. Усюды не хапала кваліфікаваных настаўнікаў, падручнікаў, памяшканняў і г.д. Скажам толькі, што для нармальнага функцыянавання беларускага школьніцтва ў новай Польшчы найбольш неабходнай была адпаведная перспектыва, якая зыходзіла б з пастаноўкі нацыянальнага пытання. Такая пастаноўка аформілася даволі хутка — на працягу 1945/46 г. Аднак яе мэтай быў курс на аднанацыянальную дзяржаву. Пачаліся справы, не годныя нашай цывілізацыі: людзі высяляліся і перасяляліся, прымусова пазбаўляліся сваёй спрадвечнай айчыны. Летам 1946 г. паўстаў у Варшаве праект таксама прымусовага перасялення беларусаў з Беласточчыны на ўсход. Такім чынам нацыянальная палітыка новай «дэмакратычнай» Польшчы ў той час была непараўнальнай з палітыкай даваеннай Польшчы. У такім становішчы непатрэбным было і беларускае школьніцтва. На працягу 1946 і 1947 г. было яно ліквідавана. Як бачым, пазнейшыя абвінавачванні Гамулкі ў нацыяналізме не былі беспадстаўнымі.

Можна заўважыць, што ў гэтай антыбеларускай акцыі дзейнасць дзяржаўных органаў супадала з дзейнасцю падполля, нягледзячы на тое, што ішла тады паміж імі крывавая барацьба. Падполле тэрарызавала беларусаў, змушаючы іх да выезду з Беласточчыны, у Нараўцы быў забіты настаўнік Аляксандр Валкавыцкі, у Страшаве публічна скатаваны настаўнік Мікола Лебядзінскі, у Старым Ляўкове пабітая настаўніца Марыя Лях, у Міхалове стэрарызаваны Аркадзь Зіневіч, які вымушаны быў спыніць навучанне. Некаторыя настаўнікі, якіх не дасягнула рука падполля, выкідаліся школьнымі інспектарамі са школ, калі не маглі вучыць па-польску. Такога не перажывала беларускае школьніцтва на Беласточчыне ад пачатку свайго існавання.

Можа гэта паказацца дзіўным, а сёння непапулярным ці нават непрыстойным, што выпраўленне гэтай нацыяналістычнай палітыкі адбылося ў працэсе «сталінізацыі» палітычнага жыцця ў Польшчы. У чэрвені 1949 г. Сакратарыят ЦК ПАРП прыняў пастанову, якая, зыходзячы з грамадскага прызнання роднай мовы, абавязала міністра асветы забяспечыць дзецям беларускай нацыянальнасці на Беласточчыне школьнае навучанне на беларускай мове. Справа аднаўлення беларускага школьніцтва стала справай дзяржаўнай.

У выніку энергічнай дзейнасці партыйных, адміністрацыйных і асветных улад беларускае школьніцтва было хутка адноўлена. Ужо ў 1954/55 г. га Беласточчыне было 66 пачатковых школ з беларускай мовай навучання і 90 школ з прадметам беларускай мовы, г.зн. разам 156 школ, у якіх вывучала родную мову 9128 вучняў. Арганізавана таксама 5 сярэдніх школ, у іх ліку: тры агульнаадукацыйныя ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску, Гайнаўцы і Міхалове і беларускія паралельныя класы ў Бельскім педліцэі і Беластоцкім ліцэі выхавацельніц дзіцячых садкоў з агульнай колькасцю 878 навучэнцаў.

Заўважым, што ў ходзе ажыццяўлення гэтай акцыі ўлады кіраваліся не пажаданнямі бацькоў, а перш за ўсё крытэрыем роднай мовы. Па-за дыскусіяй была абавязковасць яе вывучэння, так, як не выклікала сумнення абавязковасць вывучэння польскай мовы ці, скажам, матэматыкі. Прынцып добраахвотнасці стасаваўся толькі да выбару бацькамі тыпу школы, у якой вучыліся іх дзеці, г.зн. школы з беларускай мовай навучання ці польскамоўнай школы з прадметам беларускай мовы. Аднак гэтая добраахвотнасць была ў значнай меры тэарэтычная: на практыцы справа рашалася ўладамі на падставе аналізу нацыянальнай структуры насельніцтва паасобных школьных раёнаў. Захаваліся архіўныя дакументы, якія сведчаць, што абодва тыпы школ загадзя планаваліся школьнымі ўладамі.

Характэрнай рысай гэтай акцыі была яе паспешлівасць. Цэнтральныя ўлады былі зацікаўлены развіццём беларускага школьніцтва, у сувязі з чым ваяводскія і павятовыя органы імкнуліся задаволіць гэтую зацікаўленасць і выказацца вынікамі сваёй дзейнасці, ствараючы ў некаторых выпадках беларускія школы на паперы. У палове 50-х гадоў выкарыстанне беларускай мовы выказвала вялікую розніцу ў паасобных школах і класах, а таксама ў навучанні паасобным прадметам. Не хапала падручнікаў і адпаведных настаўнікаў.

Беларускае насельніцтва адносілася да гэтай акцыі даволі стрымана. Па-першае, ва ўмовах стабілізацыі пасляваеннай рэчаіснасці яно разумела, што ніякага грамадскага статусу беларуская мова не атрымала, што ў дзяржаўным жыцці была яна непатрэбная і што веданне польскай мовы нашмат важнейшае, паколькі ад таго ў немалой меры залежаў старт дзяцей у жыццё. Па-другое, праяўлялася нявер'е ў трываласць новага курсу школьнай палітыкі. Урэшце валюнтарызм і гонка за паказчыкамі не садзейнічалі павышэнню аўтарытэтнасці беларускай мовы ў школе.

Гэтыя фактары, не без удзелу антыбеларускіх настрояў восенню 1956 г., абумовілі нестабільнасць створанай адукацыйнай сістэмы. Пачынаючы ад 1956 г. назіраецца працэс ліквідацыі школ з беларускай мовай навучання, якія вяртаюцца да становішча польскамоўных школ, захоўваючы толькі прадмет беларускай мовы. У некаторых выпадках змянялася толькі шыльда школы, бо і раней беларуская мова ўжывалася ў іх толькі часткова. У выніку ў гадах 1954/55 — 1960/61 колькасць школ з беларускай мовай навучання зменшылася з 66 да 39, затое колькасць т.зв. прадметных школ узрасла з 90 да 136. Аднак гэтая рэструктурызацыя мела адносна невялікі ўплыў на рост і агульны абсяг навучання беларускай мове, якую ў 1960/61 г. вывучала ў 175 школах 10,6 тыс. дзяцей. Адначасова палепшылася забеспячэнне школ падручнікамі, расла кваліфікацыя настаўнікаў, чаму спрыяла праца Бельскага педліцэя, Беластоцкай настаўніцкай студыі і неўзабаве кафедры беларускай філалогіі пры Варшаўскім універсітэце, створанай у 1956 г. Істотнае значэнне набывала дзейнасць БГКТ і «Нівы», якая садзейнічала павышэнню нацыянальнай свядомасці насельніцтва.

Усё ж сумненні насельніцтва ў нестабільнасці пазітыўнай дзяржаўнай палітыкі не былі беспадстаўнымі. 17 лістапада 1962 г. міністэрствам асветы было выдадзена распараджэнне, якое адмяняла дзейсны да гэтай пары прынцып абавязковага навучання роднай мове для дзяцей беларускай нацыянальнасці і ўпершыню акрэсліла яе ў т.зв. прадметных школах як дадатковы, неабавязковы прадмет. Адначасова міністэрства дапускала «неабходнасць» вызваляць вучняў ад заняткаў беларускай мовы не толькі па просьбе бацькоў, але нават на падставе рашэння саміх кіраўнікоў школ. Няцяжка ўявіць, што такое распараджэнне адлюстроўвала імкненне ўлад да дэстабілізацыі навучання беларускай мове ў «прадметных» школах і абмежаванне абсягу яе вывучэння.

Змена дзяржаўнай палітыкі ў гэтай справе не была выпадковай. Як ведаем з паведамленняў мінскай прэсы за апошнія гады, на пачатку 60-х гг., г.зн. у той самы час, пачаўся паход супраць беларускай мовы таксама і ў БССР у сувязі з памылковай тэорыяй аб непазбежным адміранні моўных «асаблівасцей» і зліцці народаў СССР. Дайшло да таго, што гаварыць па-беларуску лічылася ўжо «нацыяналізмам». У выніку пачалася хуткая русіфікацыя беларускіх школ. Можна думаць, што згаданае распараджэнне міністэрства асветы было звычайным адлюстраваннем новага становішча ў БССР. Новыя правілы фармальна пагаршалі становішча прадмета беларускай мовы,

аднак да канца 60-х гг. не выклікалі адчувальных змен. Было гэта вынікам супрацьдзеяння ваяводскага камітэта ПАРП, у прыватнасці яго першага сакратара Аркадзя Лашэвіча, які разумеў магчымыя шкодныя эфекты гэтага распараджэння. У выніку абсяг навучання беларускай мове ў пачатковых школах выказваў да канца 60-х гг. значную стабільнасць на адносна высокім узроўні 10-11 тыс. вучняў у год.

Усё ж была гэта толькі паўмера, якая прадоўжыла дзеянне адукацыйнай сістэмы, аднак не рашала справу прынцыпова, бо вырашыць яе не магла. Яна рашалася на больш высокіх узроўнях, прычым даваліся тлумачэнні, што ўсё адбываецца згодна з воляй бацькоў. Тым часам адмаўленне дзяржавы ад актыўнай палітыкі ў гэтай справе рабілася штораз больш відавочным. На пачатку 60-х гадоў адбылася ліквідацыя аддзела школ з няпольскай мовай навучання ў міністэрстве асветы, а ў 1963 г. міністэрства рашыла спыніць выпуск беларускамоўных падручнікаў арыфметыкі, якая тады яшчэ ў многіх школах вывучалася па-беларуску. Такім чынам, «добраахвотныя» рашэнні бацькоў аб ліквідацыі школ з беларускай мовай навучання планаваліся школьнымі ўладамі загадзя.

Радыкальна пагоршылася становішча школьніцтва на пачатку 70-х гадоў. Былі на тое асаблівыя прычыны. У той час у Польшчы праводзілася вялікая адміністрацыйная рэформа, у прыватнасці былі ліквідаваны паветы і павятовыя ўстановы. Адбыліся асабовыя змены ў кіраўніцтве ваяводскага камітэта ПАРП. Зноў ажыла „тэорыя" аднанацыянальнай дзяржавы, афіцыйна пракламаваная на III пленуме ПАРП у 1976 г. Прадстаўнікі партыі і міністэрства ўнутраных спраў на з'ездах БГКТ у 1972 і 1976 гг. пазбягалі нават тэрміна «беларуская нацыянальная меншасць». Адбылася ліквідацыя беларускага музея ў Белавежы і эстраднага калектыву «Лявоніха».

У гэтай абвостранай атмасферы, якая адпавядала тэндэнцыям у Савецкай Беларусі, адбылося рэзкае абмежаванне беларускага школьніцтва на Беласточчыне. Дасягалася гэта рознымі спосабамі. Адным з іх было выкарыстанне працэсу школьнай рэформы, якая праводзілася ў першай палове 70-х гадоў. У ходзе ажыццяўлення гэтай рэформы было ліквідавана 75 малакамплектных школ, у якіх вывучалася беларуская мова. Іх вучні былі пераведзены ў іншыя школы, прычым пэўнай іх частцы школьныя ўлады не забяспечылі вывучэння беларускай мовы ў новых школах. Акрамя гэтага, у першай палове 70-х гадоў адміністрацыйным парадкам было спынена навучанне беларускай мове ў 26 школах, якія ў той час не былі ліквідаваны ў рамках рэформы.

У 1971 г. адбыліся яшчэ дзве іншыя важныя падзеі. Адной з іх была поўная ліквідацыя школ з беларускай мовай навучання. Паколькі бацькі гэтага не патрабавалі, былі выкарыстаны паслужлівыя кіраўнікі БГКТ, якія 28 кастрычніка 1971 г. выслалі ў міністэрства асветы пісьмовую прапанову рэарганізаваць гэтыя школы ў польскамоўныя з дадатковым прадметам беларускай мовы. Заўважым, што згодна з законам гэта маглі вырашаць толькі бацькі, а не БГКТ. Такім чынам прапанова ГП БГКТ была незаконная, пра што міністэрства ведала, але гэта яму не перашкаджала. Зазначым яшчэ, што ў школах з беларускай мовай навучання беларуская мова была абавязковай для ўсіх вучняў, а ў польскамоўных школах яна лічылася неабавязковым прадметам, што стварала большыя магчымасці для маніпуляцыі.

Такой маніпуляцыяй было чарговае распараджэнне міністэрства асветы ад 22 лютага 1971 г., якое ішло далей за згаданае распараджэнне 1962 г. У прыватнасці, замест ранейшага тэрміна «добраахвотнасці» яно ўводзіла новае паняцце «поўнай добраахвотнасці»,

а таксама патрабаванне штогадовых запісаў вучня на беларускую мову і пастанаўляла, што запісаны вучань можа спыніць вывучэнне роднай мовы ў любым класе перад чарговым школьным годам. Гэта быў ужо нічым не маскаваны ўдар па навучанні беларускай мове.

Як адбіліся гэтыя мерапрыемствы школьных улад на абсягу вывучэння беларускай мовы? Адказ на гэтае пытанне дае статыстыка. Калі ў 1970/71 г. яе вывучала 10,7 тыс. дзяцей, то ў 1980/81 г. ужо толькі 3,4 тысячы. У 1987/88 г. беларускую мову вывучае ў 58 школах і іх філіях 3,7 тыс. вучняў, што сведчыць аб тым, што ў 80-я гады ў гэтай галіне істотна нічога не змянілася. Такім чынам, гэты лічбавы стан вывучэння беларускай мовы з'яўляецца найніжэйшым ва ўсёй 70-гадовай гісторыі. Можна думаць, што такое становішча адпавядае патрабаванням урада для яго справаздач у Арганізацыю Аб'яднаных Нацый, якія маюць паказваць, што згодна з Хельсінскім пагадненнем Польшча рэспектуе правы нацыянальных меншасцей.

У сваю чаргу, кіраўнікі БГКТ не толькі не пратэставалі супраць гэтых дзеянняў (пра што ў чэрвені 1987 г. паведаміла міністэрства асветы), але — як ужо было сказана — аказалі ганебную падтрымку ў ліквідацыі школ з беларускай мовай навучання. Усё ж бывалі і пазітыўныя дзеянні з боку БГКТ. Маю на ўвазе вядомы мемарыял, скіраваны восенню 1981 г. да першага сакратара ЦК ПАРП (пра яго прамаўчала «Ніва»), у якім між іншым ГП БГКТ патрабавала забяспечыць абавязковае вывучэнне беларускай мовы ў тых школах, дзе вучні беларускай нацыянальнасці складаюць прынамсі 50% ад усіх вучняў дадзенай школы. Аднак гэтае патрабаванне было праігнаравана, пасля чаго 23 верасня 1981 г. міністр асветы і выхавання выдаў чарговае распараджэнне. Праўда, яно адмяніла ранейшае патрабаванне штогадовых запісаў вучня на прадмет беларускай мовы, аднак надалей захавала магчымасць вызваляць яго ад вывучэння роднай мовы ў любым класе школьнай вучобы. Такім чынам захаваўся важны элемент дэструкцыі працэсу навучання. Так што гэтая ініцыятыва ГП БГКТ, не з яго віны, не дала жаданых вынікаў.

Не магу закончыць сваё выступленне аптымістычным прагнозам. Справа вывучэння беларускай мовы, па сутнасці, пушчана на самацёк і ў найбольшай меры залежыць ад кіраўніцтва школ і настаўнікаў. Гледзячы на ўсе школы, перш за ўсё заўважаеш небывалы валюнтарызм: у адных працэнт школьнікаў, якія вывучаюць беларускую мову, стабільны, у іншых расце або падае. Аб працэсе навучання і экзекваванні ведаў мне вядома няшмат, хаця цікава было б пачуць у дыскусіі: ці, напрыклад, недастатковыя веды вучня па беларускай мове рашаюць аб яго прамоцыі? Баюся, што ў такім выпадку ён хутка пастараўся б зусім вызваліцца ад гэтага прадмета.

Спадзяюся, што прапанаваны кароткі агляд дае дастатковую падставу для сцвярджэння, што функцыянаванне і абсяг беларускага школьніцтва на Беласточчыне быў на ўсіх этапах яго гісторыі несумненным вынікам дзеянняў улад і адпаведных іх інтарэсаў, а не зацікаўленых бацькоў. Не з'яўляецца выключэннем і пасляваенны перыяд. Таму ва ўмовах створанай сістэмы дэструкцыйных мерапрыемстваў тлумачэнні школьнай адміністрацыі, што адказнасць за развал беларускага школьніцтва нясуць бацькі школьнай моладзі, можна лічыць крывадушнасцю. Беларускае насельніцтва ніколі не выступала супраць вывучэння беларускай мовы, хіміі ці геаграфіі, калі ведала, што яны з'яўляюцца абавязковымі прадметамі. І цяжка яго вінаваціць за тое, што на створанай уладамі пахілай плоскасці навучанне беларускай мове нібыта само коціцца ўніз.

Пытанне беларускага школьніцтва на Беласточчыне мае большае, чым агульна

**Сцэнарыі ўрокаў**

# ІІ КЛАС ЛІЦЭЯ

# Тэма: ЯНКА КУПАЛА «КУРГАН»



Іна ВЕНСКО

**МЭТЫ ЎРОКА:**

- выпрацоўваць у вучняў уменні: даваць ацэнку герою, зыходзячы з яго ўчынкаў, вызначаць тэму і ідэю твора, знаходзіць мастацкія сродкі выразнасці ў тэксце;
- развіваць крытычнае мысленне, звязнае маўленне і выразнае чытанне;
- выхоўваць патрыятычныя пачуцці.

**ТЫП УРОКА:** урок-роздум.

**ФОРМА ПРАЦЫ:** індывідуальная і калектыўная.

**АБСТАЛЯВАННЕ:** падручнік «З васільковых крыніц» для 2 класа; аўдыёзапіс фрагмента паэмы (goo.gl/opWIQs).

**ЭПІГРАФ:**

К яснаму сонцу з цьмы, беспрасвецця,
К славе з бясслаўя ўсім нашым людзям, —
Гэткай шукаю сцежкі на свеце,
Гэткаму богу і душу аддам.

*Янка Купала*

**ХОД УРОКА**

**I. Арганізацыйны момант**

**II. Уступнае слова настаўніка**

**Настаўнік:** Кожны сапраўдны паэт сваёй творчасцю імкнецца служыць высокім ідэалам, якія для яго не штосьці абстрактнае, надуманае, а найчасцей сродак раскрыцця перад чытачом уласных эстэтычных і маральных перакананняў. Таму для паэта важна не толькі ў прыгожых вобразах і прыгожымі словамі перадаць думку, пачуццё, але і выказаць сваё стаўленне да пэўнай з'явы ці падзеі.

У беларускай літаратуры Янка Купала — адзін з першых, хто найбольш глыбока развіў тэму ўзаемаадносін мастака і мастацтва, бо паэт добра ўсведамляў сваю місію, ролю ў жыцці грамадства.

Якой жа павінна быць паэзія і каму павінна служыць слова паэта? Між іншым, на гэтыя пытанні мы паспрабуем адказаць пасля знаёмства з паэмай Янкі Купалы «Курган», якая была завершана класікам у траўні 1910 года і ўпершыню апублікавана ў газеце «Наша ніва» ў чэрвені 1912 года.

**III. Вывучэнне новага матэрыялу**

**1. Чытанне твора**

Чытаем твор з элементамі выразнага чытання фрагмента паэмы настаўнікам і/ці з аўдыёзапісу.

**2. Аналіз твора**

- *Змест паэмы*

**Настаўнік:** Складзіце план твора і паводле яго перакажыце змест.

- *Характарыстыка вобразаў галоўных герояў*

**Настаўнік:** У цэнтры паэмы Я. Купалы «Курган» мы бачым паядынак гусляра і князя. Давайце засяродзімся на гэтых вобразах.

(Вучні дзеляцца на 2 групы. Першая група аналізуе вобраз гусляра, другая — князя. Адказы вучні падмацоўваюць цытатамі.)

- *Фармуляванне тэмы і ідэі твора*

**Настаўнік:** Праз літаратурных герояў і іх учынкі раскрываюцца аўтарскія думкі і ідэалы, уздымаюцца і вырашаюцца надзённыя праблемы. Давайце сфармулюем тэму і асноўную ідэю паэмы «Курган»? (Адказы вучняў)

**Тэма:** Лёс мастака (песняра) у грамадстве.

**Ідэя:** Народнай памяці варты толькі той мастак, які аддае справе народа і свае песні, і сваё жыццё; сапраўднае мастацтва толькі тое, што служыць народу; у службе народнай праўдзе — веліч і прызванне мастака.

У чым, на Вашу думку, тоіцца сіла мастацтва? (Адказы вучняў)

Тлумачальны слоўнік падае значэнне слова 'талент' так:

*талент* — гэта 1) надзвычайныя прыродныя здольнасці і 2) чалавек з вялікімі здольнасцямі.

А як Вы разумееце, што такое талент? (Адказы вучняў)

Якімі здольнасцямі, на Вашу думку, павінен валодаць таленавіты чалавек? (Адказы вучняў)

- *Мастацкія сродкі выразнасці, жанр і кампазіцыя твора*

**Настаўнік:** Сіла ўздзеяння мастацкага твора на чытача залежыць ад таго, як гэты твор напісаны, якія жанравыя і мастацкія сродкі выразнасці выкарыстоўвае аўтар.

Мы неаднаразова казалі, што «Курган» Янкі Купалы — гэта паэма. Што такое паэма? (Адказы вучняў)

Якія асноўныя асаблівасці прозы і паэзіі пакладзены ў аснову «Кургана»? Ці можам мы аднесці гэты твор да ліра-эпічнага жанру? (Адказы вучняў)

Якія пачуцці і эмоцыі перададзены ў творы? (Адказы вучняў)

Вызначыце сродкі мастацкай выразнасці, якія дапамагаюць стварыць адпаведны настрой. Падмацуйце адказы прыкладамі. (Адказы вучняў)

(Пры неабходнасці можна прыгадаць дэфініцыі такіх сродкаў мастацкай выразнасці, як метафара, эпітэт, параўнанне, гіпербала.)

Давайце ўспомнім асноўныя кампазіцыйныя часткі любога твора. (Адказы вучняў)

Калі ласка, паглядзіце на дошку: кампазіцыю паэмы можна прадставіць наступным чынам.

I. Экспазіцыя (час і месца падзей)
II. Завязка (пачатак развіцця дзеяння)
III. Кульмінацыя (момант найвышэйшага напружання ў творы)
IV. Развязка (дзеянне ідзе на спад)
V. Эпілог (заключэнне)

Змена гучання строф паэмы суадносіцца з разгортваннем сюжэту. Падбярыце адпаведныя раздзелы (найлепш радкі з паэмы ці эпізоды), якія б адпавядалі гэтым кампазіцыйным часткам. Будзеце працаваць у групах.

**Праца ў групах:**

1 група — экспазіцыя, завязка, кульмінацыя;

2 група — кульмінацыя, развязка, эпілог.

(Адказы вучняў)

**IV. Рэфлексія**

Якія Вашы ўражанні ад прачытанага твора?

Як Вы зразумелі твор?

Якім павінен быць сапраўдны мастак?

(Адказы вучняў)

**V. Падагульненне**

**Настаўнік:** Звярніце ўвагу на эпіграф да нашага ўрока (зачытвае).

Янка Купала лічыў, што найвялікшым скарбам паэта з'яўляецца пачуццё еднасці са сваім народам, таму і творчасць паэта павінна быць выразнікам ідэй, інтарэсаў народа. З самага пачатку свайго творчага шляху Купала добра ўсведамляў прызначэнне паэта і паэзіі. Сведчаннем гэтаму з'яўляюцца і словы класіка, узятыя як эпіграф, а таксама паэма, з якой мы сёння пазнаёміліся. У вобразе гусляра-песняра Купала ўвасобіў свой ідэал мастака і на яго прыкладзе паказаў нам ідэю сапраўднага мастацтва. Гусляр гіне, але песня яго застаецца жыць у народзе. Памяць пра яго — вечная. І сімвалам несмяротнасці песняра з'яўляецца курган.

**VI. Аналіз працы вучняў на ўроку**

**VII. Дамашняе заданне**

Вывучыць на памяць урывак паэмы.

І КЛАС ЛІЦЭЯ

Сцэнарыі ўрокаў

# ТЭМА: «ЛЕКСІКА: СІНОНІМЫ І АНТОНІМЫ»



Іна ВЕНСКО

**МЭТЫ ЎРОКА:**

- паглыбіць веды вучняў пра сінонімы і антонімы;
- развіваць уменне знаходзіць іх у тэксце, вызначаць сэнсава-стылістычную ролю;
- фарміраваць уменні ўтвараць сінанімічны рад, падбіраць антонімы да слоў розных семантычных груп;
- фарміраваць навыкі правільнага пісьма;
- узбагаціць лексічны запас вучняў;
- выхоўваць любоў да роднага слова.

**ТЫП УРОКА:** вывучэнне новага матэрыялу.

**ФОРМА ПРАЦЫ:** індывідуальная і калектыўная.

**АБСТАЛЯВАННЕ:** падручнік па беларускай мове «Практычная граматыка», карткі з заданнямі.

**ХОД УРОКА**

**I. Арганізацыйны момант**

**II. Франтальнае апытанне і праверка дамашняга задання**

- Што такое слова?
- Як называецца сукупнасць усіх слоў беларускай мовы?
- Якая роля слова ў мове?
- Прывядзіце прыклады прамога і пераноснага значэння слова.
- Колькі значэнняў можа мець слова?

**III. Паведамленне тэмы і мэт урока**

**IV. Вывучэнне новага матэрыялу**

- **СІНОНІМЫ**

**Настаўнік:** Часта той самы прадмет, дзеянне, якасць ці з'яву можна назваць рознымі словамі. Напрыклад, слова 'ісці' можна назваць 27 іншымі словамі: ступаць, крочыць, плесціся, маршыраваць, цягнуцца, шыбаваць, дыбаць, брысці

і г.д. А дзеянне, якое абазначаецца словам 'гаварыць', можна назваць больш як 50 іншымі словамі. І такія словы называюцца сінонімамі. Запішыце, калі ласка, у сшытак, што такое сінонімы.

*Сінонімы — гэта словы адной часціны мовы, якія гучаць па-рознаму, але маюць блізкае ці аднолькавае значэнне.*

Два і больш сінонімаў, якія аб'ядноўваюцца лексічным значэннем, утвараюць сінанімічны рад. У такім радзе заўсёды ёсць асноўнае, дамінантнае слова, якое найбольш яскрава выражае значэнне, агульнае для ўсіх слоў дадзенага рада, і з'яўляецца зазвычай стылістычна нейтральным. Таму асноўнае слова ў сінанімічным радзе заўсёды стаіць на першым месцы.

Ужыванне сінонімаў дазваляе ўзбагаціць маўленне, перадаць самыя падрабязныя асаблівасці паняццяў.

**Праца з падручнікам**

**Настаўнік:** Працуем з табліцай на ст. 70 «Лексіка-семантычныя катэгорыі слова».

Назавіце тыпы сінонімаў? (семантычныя, стылістычныя і кантэкстуальныя)

**Замацаванне ведаў**

- Практ. 8, 9, 11, 12 на ст. 72-74.
- Праца з карткамі „Сінанімічны рад".

Размяркуйце словы ў 4 сінанімічныя рады:

Вабіць —

Берагчы —

Абшар —

Раздарожжа —

*Словы для выкарыстання*: зберагаць, шырыня, скрыжаванне, ростань, гарнуць, ашчаджаць, прывабліваць, шанаваць, абсяг, разлегласць, бясконцасць, клікаць, крыжавыя пуціны, далячынь, прыцягваць, бязмежжа.

- **АНТОНІМЫ**

**Настаўнік:** Я прапаную пагуляць у гульню „Наадварот". Правілы простыя: трэба падабраць словы, супрацьлеглыя па значэнні:

*дзень (ноч), чорны (белы), высокі (нізкі), салодкі (горкі), светлы (цёмны), шырокі (вузкі), цвёрды (мяккі).*

Якраз такія словы з процілеглым значэннем і ёсць антонімы. Запішыце ў сшытак:

*Антонімы — гэта пары слоў той самай часціны мовы, якія маюць супрацьлеглае значэнне.*

Як правіла, не маюць антонімаў словы з канкрэтным значэннем (стол, нож, кніга) і навуковыя тэрміны (займеннік, акалічнасць, склон). Прывядзіце свае прыклады.

Выкарыстанне антонімаў дазваляе больш ярка перадаць асаблівасці паняццяў праз выяўленне іх непаўторнасці, непадобнасці паміж сабой.

**Замацаванне ведаў**

- Практ. 16, 17, 19, 21 на ст. 74-75.
- Праца з карткамі „Антонімы ў прыказках".

Устаўце антонімы замест пропускаў у прыказках.

Чаго не **згубіў**, таго не _______.

Па адзенні **сустракаюць**, а па розуму _______.

Лепш дзесяць **сяброў**, чым адзін _______.

**Лёгка** раскідаць, ды _______ збіраць.

Хто **чужога** не шануе, той ________ не мае.

**Добрае** чуваць далёка, а ________ яшчэ далей.

**Горкая** часам праца, ды хлеб ад яе _______.

Як думаеце, чаму вучаць гэтыя прыказкі?

**V. Тлумачэнне дамашняга задання**

Практ. 10, 13-15, 18, 20 на ст. 73-75.

**VI. Падвядзенне вынікаў. Рэфлексія**

З чым пазнаёміліся сёння на ўроку?

Якія словы называюцца сінонімамі?

Якія словы называюцца антонімамі?

Што было цікавым?

З чым былі цяжкасці?

Як вы ацэньваеце сваю работу?

**VII. Ацэнка працы вучняў на ўроку**

**Сцэнарыі ўрокаў**

I КЛАС ЛІЦЭЯ

# Тэма: «ЛЕКСІКА: АМОНІМЫ І ПАРОНІМЫ»



Іна ВЕНСКО

**МЭТЫ ЎРОКА:**

- паглыбіць веды вучняў пра амонімы і паронімы;
- развіваць уменне знаходзіць іх у тэксце;
- развіваць моўнае чуццё;
- узбагаціць лексічны запас вучняў;
- фармаваць навыкі правільнага чытання і пісьма;
- прывіваць любоў да роднага слова.

**ТЫП УРОКА:** вывучэнне новага матэрыялу.

**ФОРМА ПРАЦЫ:** індывідуальная і калектыўная.

**АБСТАЛЯВАННЕ:** падручнік па беларускай мове «Практычная граматыка», карткі з заданнямі, тлумачальны слоўнік.

**ХОД УРОКА**

**I. Арганізацыйны момант**

**II. Праверка дамашняга задання. Актуалізацыя ведаў**

- Што такое антонімы?
- Якія словы называюцца сінонімамі?
- Якая іх роля ў мове?
- Падбярыце да прапанаваных слоў адзін сінонім і адзін антонім (запісаны на дошцы):

*Сябар — (прыяцель, вораг)*
*Суседні — (блізкі, далёкі)*
*Узводзіць — (будаваць, разбураць)*
*Павольна — (паступова, хутка)*
*Рухацца — (ісці, стаяць)*

**III. Паведамленне тэмы і мэт урока**

**IV. Вывучэнне новага матэрыялу**

- **АМОНІМЫ**

**Настаўнік:** Сёння мы працягваем працу з лексікай і разгледзім такія словы, як амонімы і паронімы.

З'яву аманіміі можна праілюстраваць адной з загадак Кандрата Крапівы:

*Я касой траву кашу ў зялёным лузе, а другую я нашу пастаянна ў пузе. Трэцюю, я вам скажу, носіць мая дочка, на чацвёртай я ляжу — грэюся ў пясочку.*

Тут бачым аманімічную групу з чатырох 'кос' са значэннямі: 'прылада для кашэння', 'селязёнка', 'доўгія заплеценыя валасы', 'доўгая вузкая мель, якая ідзе ад берага'.

Такім чынам, якія словы мы называем амонімамі?

*Амонімы — гэта словы, якія аднолькава гучаць і пішуцца, але маюць зусім розныя, не звязаныя паміж сабой значэнні.*

Напрыклад: тур ('першабытны дзікі бык' і 'перыяд, этап гульні, спаборніцтва'); гасцінец ('шырокая дарога, шлях' і 'рэч, ласунак, які госць падносіць як падарунак').

**Праца з падручнікам**

**Настаўнік:** Адкрыйце падручнік на ст. 70 з табліцай «Лексіка-семантычныя катэгорыі слова». Назавіце тыпы амонімаў (лексічныя, амафоны, амографы, амаформы).

**Замацаванне ведаў**

**Настаўнік:** Карыстаючыся табліцай у вашым падручніку, вызначыце тыпы амонімаў.

Праца з карткамі „Тыпы амонімаў"

Пастаўце ў дужках адпаведную лічбу: 1 — лексічныя амонімы, 2 — амаформы, 3 — амафоны, 4 — амографы.

Смачныя лісічкі — хітрыя лісічкі ( ), хутчэй тры — тры чалавекі ( ), стройны стан — варожы стан ( ), асеннія палі — палі кветкі ( ), Лявон Шыла — вострае шыла ( ), маладыя асіны — асіны рой ( ), салдаты брылі — саламяныя брылі ( ), шырокі гасцінец — смачны гасцінец ( ), прыляцеў журавель — струхлелы журавель ( ), цікавая казка — жалезная каска ( ), жытняя мука — адна мука ( ), сасновы лес — лез уверх ( ), родныя далі — далі слова ( ), спелыя гранаты — баявыя гранаты ( ), горкі шакалад — слізкія горкі ( ), ён ведаў — узровень ведаў ( ), пчаліныя соты — соты ў спісе ( ), шырокая лава — расплаўленая лава ( ).

- **ПАРОНІМЫ**

*Паронімы — гэта словы, якія блізкія, але не тоесныя сваім гучаннем і напісаннем і розныя па значэнні.*

Напрыклад: чарнець 'станавіцца чорным, чарнейшым' і чарніць 'рабіць што-небудзь чорным, чарнейшым'; карыслівы 'прагны да нажывы, карысталюбівы' і карысны 'які прыносіць карысць'; адрасат 'той, каму адрасавана паштовае адпраўленне' і адрасант 'той, хто пасылае паштовае адпраўленне; адпраўнік'; абагуліць 'зрабіць асабістае, уласнае калектыўным, грамадскім' і абагульніць 'знаходзіць агульнае ў розных думках, фактах, выказваннях і на падставе гэтага рабіць вывад'.

У адрозненне ад амонімаў, лексічнае значэнне паронімаў не столькі вынікае з моўнага кантэксту, колькі, наадварот, служыць удакладненнем сэнсу выказвання.

**Замацаванне ведаў**

- Практ. 22, 25 на ст. 76.
- Заданне на дошцы.

**Настаўнік:** Выберыце з пар слоў-паронімаў патрэбнае і ўтварыце словазлучэнні:

*Рухавы — рухомы*: твар, хлопец, маёмасць, атрад;

*Праязны — праезны:* білет, мост, пасведчанне, вежа;

*Баечны — байкавы*: традыцыя, мараль, коўдра;

*Узорны — узорысты*: ручнік, чысціня, фіранкі, паводзіны, служба, сукенка.

**V. Тлумачэнне дамашняга задання**

Практ. 23, 24 на ст. 76.

Прыдумаць і запісаць 4 сказы з амонімамі.

**VI. Рэфлексія**

З чым пазнаёміліся сёння на ўроку?

Што такое амонімы? Прывядзіце прыклады.

Што такое паронімы? Прыклады.

Што выклікала цяжкасці?

**VII. Ацэнка працы вучняў на ўроку**

# Паўтарэнне і замацаванне ведаў па беларускай літаратуры XIX стагоддзя (II клас ліцэя)



Ян КАРЧЭЎСКІ

- **Адкажы на пытанні, там, дзе трэба, выберы правільны адказ.**

1. **Назаві тры напрамкі, якія выступілі ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя.**

2. **Якія грамадска-палітычныя падзеі мелі месца на беларускіх землях у XIX стагоддзі?**

3. **Паясні паняцце «польска-беларускія пісьменнікі».**

4. **У якой навучальнай установе Еўропы ўзнікла нелегальнае таварыства «філаматаў»?**

   I у Падуанскім універсітэце

   II у Віленскім універсітэце

   III у Кракаўскім універсітэце

5. **З якім вядомым пісьменнікам сябраваў Ян Чачот?**

   I з Адамам Міцкевічам

   II з Янам Баршчэўскім

   III з Аляксандрам Рыпінскім

6. **Хто з'яўляецца галоўным героем беларускамоўных вершаў Яна Чачота?**

   I рамантычны вобраз каханай дзяўчыны

   II вобраз прыроды роднага краю

   III беларускі мужык, якога паэт павучае як трэба жыць

7. **Якія даты адпавядаюць гадам жыцця Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча?**

   I 1840-1900

   II 1808-1880

   III 1808-1884

8. **Дзе Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч пражыў большую частку свайго жыцця?**

   I у Мінску

   II у фальварку Люцынка недалёка Мінска

   III у фальварку Свіраны Віленскай губерні

**9. На якія перыяды падзяляем творчасць Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча?**

**10. У чым заключаўся сентыменталізм Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча?**

**11. Вызначце значэнне вобраза пані ў паэме «Гапон».**

I пані — прыхільнік прымірэння паноў і сялян

II пані — абаронца паноў і падпанкаў

III пані — носьбіт аўтарскага ідэалу

**12. Вобраз якога асяроддзя паказаны ў творы «Пінская шляхта» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча?**

**13. Якіх герояў «Пінскай шляхты» можам назваць «людзьмі духоўна абмежаванымі»?**

I Грышку і Марысю

II Ціхона Пратасавіцкага і Івана Ліпскага

III Кручкова і Пісулькіна

**14. Каму з герояў п’есы «Пінская шляхта» належаць наступныя выказванні: «не цяпер, то ў чацвер», «як чорта з балота», «даганяючы не нацалуешся»?**

I Грышку

II Ціхону Пратасавіцкаму

III Куторгу

**15. Якія заганы грамадскага жыцця высмеяў Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч у п’есе «Пінская шляхта»?**

I бюракратычна-чыноўніцкую сістэму ўлады ў царскай Расіі

II кар’ерыстаў, дэмагогаў, паклёпнікаў

III адмоўныя з’явы ў жыцці грамадства, выкліканыя культам асобы

**16. Якія сувязі з польскай літаратурай у Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча?**

**17. Дзе і калі нарадзіўся Кастусь Каліноўскі?**

I у 1838 годзе ў Мастаўлянах

II у 1850 годзе ў Мінску

III у 1836 годзе ў Гродне

**18. Назаві тры прыкметы газеты «Мужыцкая праўда.**

**19. Колькі нумароў «Мужыцкай праўды ўбачыла свет?**

I 6

II 7

III 11

**20. У якім годзе быў арыштаваны Кастусь Каліноўскі?**

I у 1864

II у 1863

III у 1866

**21. Якія думкі выявіў Каліноўскі ў сваіх перадсмяротных «Пісьмах з-пад шыбеніцы»?**

I шкадаванне, што рана яму прыходзіцца пакідаць белы свет

II прасіў спыніць бессэнсоўнае праліццё крыві

III звярнуўся з заклікам да народа працягваць пачатую ім справу

**22. Аўтарам якога верша з'яўляецца Кастусь Каліноўскі?**

**23. Заснавальнікам якога кірунку ў беларускай літаратуры лічаць Францішка Багушэвіча?**

**24. Чаму Францішка Багушэвіча называюць абаронцам сялян у літаратуры і жыцці?**

**25. Чаму Францішак Багушэвіч каля дваццаці гадоў жыў па-за межамі Беларусі?**

I быў вымушаны ратавацца ад рэпрэсій пасля паўстання 1863 года

II на радзіме не было ўмоў, каб атрымаць добрую працу

III на бацькаўшчыне не было магчымасцей займацца літаратурнай дзейнасцю

**26. Якім псеўданімам карыстаўся Францішак Багушэвіч?**

I Яська — гаспадар з-пад Вільні

II Сымон Рэўка з-пад Барысава

III Тодар Кляшторны

**27. Да чаго заклікаў беларускі народ Багушэвіч у сваіх «Прадмовах»?**

I да барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне

II да паўстання супраць царызму

III да пашаны роднай мовы

**28. Які народны інструмент паяўляецца ў загалоўку зборніка вершаў Францішка Багушэвіча?**

I скрыпка

II гуслі

III смык

**29. Назаві загаловак апавядання Францішка Багушэвіча.**

**30. З якой польскай пісьменніцай сябраваў Францішак Багушэвіч?**

# *Як падрыхтаваць вучня да дэкламатарскага конкурсу*



Ян КАРЧЭЎСКІ

Трэба прызнаць, што нашы вучні даволі ахвотна прымаюць удзел у дэкламатарскіх конкурсах. Тычыцца гэта кожнага этапу навучання. Зразумела, нам — настаўнікам, а таксама бацькам, трэба толькі цешыцца, што ў нас шмат здольных і творчых маладых людзей. Апрача таленту, як амаль усюды, патрэбная тут таксама сумленная і сістэматычная праца. Вядома, што інакш гэтая праца ды сама дэкламацыя выглядае ў выпадку дашкольнікаў і дзетак з пачатковых школ, а інакш, калі маем дачыненне з гімназістамі ды вучнямі звышгімназічных школ. Наколькі ў першым выпадку мы можам дазволіць на такія элементы, як рух на сцэне ці нейкія жэсты, настолькі ў другім выпадку мы павінны трымацца пэўных агульных, абавязковых прынцыпаў у час дэкламацыі. І якраз на гэтых старэйшых вучнях я хачу засяродзіць сваю ўвагу.

Першым, вельмі істотным элементам, з'яўляецца **падборка рэпертуару**. Такім чынам, тэкст павінен быць адпаведна дапасаваны да ўзросту дэкламатара. Зразумела, што тут узнікае ў нас праблема з недахопам маладой беларускай літаратуры. І ў гэтым з дапамогай прыйдзе нам інтэрнэт, дзе, хаця б на сайце **http://www.kamunikat.org** мы можам пагартаць літаратурныя часопісы «Дзеяслоў» ці «Верасень». Тэкст павінен быць таксама дапасаваны да полу дэкламатара. Нельга напрыклад, каб дзяўчына чытала верш, у якім лірычны герой выступае ў мужчынскім родзе. У падборцы рэпертуару бярэм пад увагу таксама сілу і тэмбр голасу выканаўцы, яго тэмперамент ды знешні выгляд («апарыцыю»).

Чарговым элементам дэкламацыі з'яўляецца **інтэрпрэтацыя.** Падкрэслім, што выканаўца безумоўна павінен разумець усё, што ён гаворыць, а таксама добра ведаць тое, што ён хоча пераказаць гледачу, а заўсёды штосьці хоча яму сказаць. Найважнейшым астаецца слова. Пры яго дапамозе дэкламатар выяўляе свае думкі. Пры гэтым выкарыстоўваем міміку твару. Ніякіх рухаў на сцэне не выконваем. Пазбягаем таксама жэстаў, хіба што ў крайнім выпадку, калі яны зусім неабходныя, але гэта сапраўды рэдкія сітуацыі.

Наступнай умовай добрай дэкламацыі з'ўляецца **культура мовы**. Гэта добрая дыкцыя, але таксама правільны націск ды вымаўленне паасобных гукаў. У дэкламацыі беларускамоўных твораў найчасцей узнікае ў нашых навучэнцаў клопат з правільным вымаўленнем цвёрдага *г* ды пярэднеязычнага зубнога *л*. Менавіта над артыкуляцыяй гэтых гукаў трэба нам уважліва працаваць. Калі ідзе пра лагічны націск, дык ён найчасцей падае на дзеяслоў.

Урэшце чацвёртым істотным элементам дэкламацыі з'яўляецца г.зв. **агульны артыстычны выраз**. Перш за ўсё пастава — ногі лёгка расставіць, рукі свабодна звісаюць, локці звонку (убок), але не ўціснутыя, усё аслабіць. Зрок накіраваны на публіку. Валасы не засланяюць твару. Дэкламатар павінен быць адпаведна апрануты. Вопратка не можа адводзіць увагі ад слова. Тут няма месца на шпількі ці нейкія бліскоткі. З другога боку — дэкламатар павінен звярнуць увагу на сябе. Пасля дэкламацыі не дзякуем. Паклон не з'яўляецца элементам дэкламацыі, таму

перад ім робім адзін крок назад, уперад ці ўбок. Хаця апошнім часам наглядаецца тэндэнцыя, каб зусім не кланяцца, толькі перачакаць хвілінку і сысці са сцэны. І памятайце — эмоцыі, эмоцыі, эмоцыі.

У працы над правільным вымаўленнем варта пакарыстацца скорагаворкамі. Вось прыклады.

Пацук пацалаваў пульхнага пацана.

Жаба жадала жуку мажнай жонкі.

Малая Лыска лоўка лавіла лапаю локшыну.

У гайнаўскім гіпермаркеце беззаганная гігіена.

Калматая малпа выпіла малако.

Галубыя галубы гулялі ў галубятні.

Рабая курка плюе крупкі.

Нясмелага з няўмелым не распазнаеш.

Масла пагасла, сала патала, а ў каўбасе ліха стала.

Рыбак рыбачыў, а рыбы не бачыў.

 

# Вечарына-фантасмагорыя, прысвечаная творчасці членаў літаратурнага аб'яднання «Белавежа»



Ян КАРЧЭЎСКІ

**ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:**

Дзядуля Сідар
Бабуля
Унучка Зоська
I Дэкламатар
II Дэкламатар
III Дэкламатар
IV Дэкламатар
Старшыня Янка
Віктар
Сакрат
Жанчына I
Жанчына II
Князь
Папялушка
Міхась
Юрка
Бард

*Дзея адбываецца ў звычайнай гарадской кватэры.*
З'ява I
*Дзядуля (чытае газету), бабуля, унучка*
**Бабуля.** *(прыбірае кватэру)* Давай, унучка, хутчэй будзем прыбіраць у хаце, бо сёння наведаюць нас знакамітыя госці.
**Унучка.** А што ж гэта за госці — «знакамітыя»?
**Бабуля.** А «белавежцы» да нас прыедуць, мая ты даражэнькая!
**Унучка.** Белавежцы? А што, мо зубры ім надаелі, ці экатэрарысты ў запаведнік хочуць іх загнаць? А тут ім бедным яйкі скончыліся, каб адбівацца.
**Бабуля.** Ха, ха, ха! Не пра тых я белавежцаў, унучка. Дзядуля, кінь чытаць газету і раскажы Зосьцы ў чым справа!
**Дзядуля.** *(адкладаючы газету)* Ведаеш, дзіцятка, «белавежцамі» называюць таксама членаў літаратурнага аб'яднання «Белавежа», якое было ўтворана ў чэрвені 1958 года ў Беластоку пры рэдакцыі газеты «Ніва». Яго заснавальнікамі з'яўляліся, між іншым, Георгій Валкавыцкі, Уладзімір Гайдук, Ян Чыквін, Віктар Швед, Сакрат Яновіч. Такім чынам аб'яднанне гуртуе беларускіх паэтаў і празаікаў, якія пражываюць у Польшчы.
**Унучка.** Гэта цікава. Дык яны дзейнічаюць ужо больш чым паўстагоддзя!

**Бабуля.** Ах, ты мая разумніца, як спраўна палічыла. У іх заўтра літаратурны семінар, усе з'едуцца. А некаторыя, як я ўжо згадвала, завітаюць сёння вечарам да нас, бо гэта нашы добрыя знаёмыя і сябры.
**Дзядуля.** У значнай большасці яны выхадцы з беларускіх вёсак нашага Беластоцкага краю. А як прыгожа «белавежцы» апяваюць свае родныя мясціны! Давайце паслухаем!
*(музыка)*
**І Дэкламатар.** Надзея Артымовіч, «Ікона ...».

ікона
лістападаўскі снег
блакітны ранак
сон аднакрылы і лёгкі
у блакітным люстры

стаю
хвіліна прыгажосці
акіян хараства
хвіліна

веру ў вечнае хараство
веру ў адно нявыказанае слова
веру ў белае маўчанне

вечар у Бельску — камень і крыж
вечар у Бельску — блакітны туман

Бельск — ікона малітва сон жыццё

**ІІ Дэкламатар.** Алесь Барскі, «Блізкасць далёкага».

... О, сонечны мой край,
Я без цябе прапашчы.
Іконы Полацка
Мне часта сняцца.
Навошта свет
Вясёлы і гуляшчы,
Калі з табой
Я не магу звязацца.
Падляшша.
Белавежа,
Бандары над рэчкай.
Тут мае рымы і афіны.
І кожны крок у свет —
Мая асечка
І перамога —
Крыж мой да айчыны.

**ІІІ Дэкламатар.** Віктар Швед, «Паўстанак Мора».

Я на Цэнтральным. Еду скорым,
Ён у тунэлі пада мной.
Прашу білет: паўстанак Мора,
А ў сэрцы радасны настрой.

І як жа тут не ганарыцца!
Таго ніколі не было:
Вядомым сталася ў сталіцы
Маё радзімае сяло.

Час уцякае нам няспынна
І гоніць нас: «Хутчэй, хутчэй!»
Тым больш прыемна: на гадзіну
Мора ад горада бліжэй.

**IV Дэкламатар.** Сакрат Яновіч, «Вяртанне ў Крынкі».

Я свечкі запаліў, у пакоі цішыня велікодная. Бачу Бацьку...
Крынкі халаднаногія! Іду ў даліну пачатку свайго — готыка дзяцінства на небакраі. На нашых выганах бесклапотнасці і ў вішнях радасці рэха загуляла са мною ў схованкі. Чырванею, засаромлены сталасцю.
Крынкі вячэрнезвонныя! Кіра-пані хараством візантыйскім сваім не асудзіла мяне на будзённасць. І, магчыма, супроць волі яе пайшоў я тады прэч з бязбожнай верай у Купалу.
Крынкі ціхалістыя! Вяртаюся пяццю дарогамі пыльнымі з пустыняў жыцця ў крыніцах нашых абмыцца. Знявечаны бізунамі смутку, не паказваюся...
Свечкі гаснуць без памяці.

**Унучка.** Ах, як прыемна было паслухаць!
**Дзядуля.** Так... — Беларус па ўласным жаданні не стане беларусам, — сказаў наш патрыёт і пачаў караць правініўшагася сына «белавежцамі» — прымушае чытаць іхнія творы ў арыгінале.
**Унучка.** Бабуля, а я збегаю да суседкі, у яе шмат цікавых кніжак з вершыкамі для дзяцей. Можа нейкі вывучу на памяць, каб прачытаць нашым гасцям.
**Бабуля.** Ну, дык ідзі дзіцятка, толькі доўга не заседжвайся.
**Унучка.** Добра бабуля, я пайшла.
*(гучыць музыка, дзядуля і бабуля адпачываюць)*

З'ява II *(тыя ж самыя)*
**Бабуля.** Чуеш Сідар? Хтосьці стукае ў дзверы. Пайду адкрыю. *(пайшла адкрыць)* А-а-а... Спадар старшыня. Заходзь Янка, калі ласка!
**Старшыня.** Добры дзень у хату вам, здароў Сідар!
**Дзядуля.** Прывітанне Янка! Як жывеш?
**Старшыня.** *(дэкламуе)*

Што ёсць быццё? Што чалавек? Што — Бог?
Чаму нікому лёсу перайначыць?
Не адсумуе смутак нашых усіх зямных трывог —
З вачэй злятае белы голуб плачу. (...)

А чым свабода ёсць? — Для розуму, для сэрца й рук —
Цудоўны божы дар? Пыхлівы чалавечы мык?
Чаму ўсё жыццё свой камень пхаем пад гару?
Адгадкі ў свеце мабыць ёсць... Але не выкажа язык.

**Дзядуля.** Бачу, што ты, як заўсёды, у філасофска-задуменным настроі.
**Бабуля.** Але ж, давайце прысядзем. Гавары, Янка, што чуваць добрага, колькі ж гэта ўжо часу ты ўзначальваеш «Белавежу»?

**Старшыня.** Калі добра памятаю — чатырнаццатага жніўня тысяча дзевяцьсот дзевяностага года Ваяводскі суд у Беластоку зарэгістраваў Беларускае літаратурнае аб’яднанне як самастойную адзінку. Раней былі мы ў структурах БГКТ. Тады ж таксама, па маёй ініцыятыве, была заснавана Бібліятэчка беларускага літаратурнага аб’яднання. У рамках гэтай серыі выйшла ўжо некалькі дзясяткаў кніжак. З тысяча дзевяцьсот дзевяноста восьмага года выходзіць наш часопіс «Тэрмапілы». Такім чынам як старшыня, я ўжо перайшоў чвэртку.
**Бабуля.** Выдатна, выдатна ... *(хтосьці стукае ў дзверы)* Але мне здаецца, што чарговы госць ідзе да нас. Пайду сустрэну.
**Дзядуля.** Гэта ж Віктар!
**Віктар.** Маё шанаванне!
**Дзядуля.** Мы рады цябе бачыць! Заходзь, калі ласка! *(Віктар вітаецца з усімі)*
**Бабуля.** Сядай Віктар! Гавары, як здароўе! Я цешуся, што твае жыццёвыя сцежкі стабілізаваліся! Ты далей творыш вершы для дзяцей?
**Віктар.** Пісаў і пішу, але не толькі для дзяцей. Вось у маім нататніку *(вымае яго з кішэні)* знаходзіцца, між іншым, верш «Дазволь цябе кахаць».
**Бабуля.** Дазваляю, Віктар! Давай, чытай!
**Віктар.** *(чытае)*
Мне сумна так, мне сумна, дарагая,
Балюча так, што слёзаў не стрымаць.
Прашу цябе, малю цябе ў адчаі:
Дазволь цябе, дазволь цябе кахаць...
**Бабуля.** *(выяўляе захапленне)* Ах, якое ж гэта цудоўнае, я цалкам расчулілася.
**Дзядуля.** Якраз многія вершы Віктара сталі папулярнымі песнямі, ён таксама аўтар слоў шматлікіх калядак.
**Старшыня.** У шасці- і сямідзясятых гадах асноўнаю формаю працы сяброў «Белавежы» былі аўтарскія сустрэчы. «Белавежцы» правялі пару тысячаў такіх сустрэч. Сам Віктар — каля паўтары тысячы.
**Віктар.** Я і цяпер сустракаюся са сваімі чытачамі. Яшчэ ўсё запрашаюць.
**Старшыня.** Ну і хвала табе за гэта. *(стукат у дзверы)*
**Бабуля.** Ой, пайду сустракаць чарговага госця.
**Дзядуля.** *(да Віктара і старшыні)* А што гэта за сярэбраны яздок прыбывае!
**Бабуля.** Гэта ж Сакрат, проста са сваёй вілы ў вялікі горад Беласток прыехаў. Заходзь, наш мілы сябар! Тут і старшыня, і Віктар, і Сідар.
**Сакрат**. Ізідар?! А ў мяне няма да яго ніякага дачынення!
**Бабуля.** Сідар, Сідар гэта. Заходзь смела.
**Сакрат.** А, выбачай брат, крыху не дачуў. Тысячу гадоў не бачыліся! *(вітаецца, звяртаецца да старшыні)* Здароў, Янка! Здаецца, было, як учора, калі гэты твой свяжуткі альбом, падрыхтаваны на саракапяцігоддзе «Белавежы» я дарыў у Варшаве прэзідэнту Кваснеўскаму.
**Старшыня.** Гэта ж была знамянальная падзея. Табе тады ўручалі еўрапейскую прэмію імя Анджэя Дравіча. Глядзелі па тэлебачанні. Ёсць чым ганарыцца. Дзеля такіх хвілін варта было пацярпець жыццёвыя нягоды.
**Сакрат.** Усё-такі, не жаль пражытага.
**Дзядуля.** Што праўда, дык праўда.
*(раптам убягаюць дзве жанчыны)*
**Жанчына I.** Выбачайце, даражэнькія, мы толькі на некалькі хвілін.
**Жанчына II.** Хочам паглядзець на танцы ў клубе «Задрыпанка», а з вашага акна ўсё відаць, як на далоні. Там і нашы падлеткі.
**Бабуля.** А, ну давайце, я таксама запушчу жураўля.
**Жанчына I.** Ты глянь, Волько, на Мішкаву. Бадай яе халера! Налажыла спадніцу

на дзве пядзі, што аж зызу відаць, і скача, як нядобрае нейкае. Што за бацькі? Я б сваёй кудлы паабрывала. І чаго тут хлопцаў лініць, калі дзяўчаты самі налазяць.
**Жанчына ІІ.** Яно так. І сораму ніякага няма. Антыхрыст умяшаўся. Калісьці наложыш саян даматканы да самых пят, а ўжо барані Божа, каб калена відаць было. І танцы як танцы былі, полька, казачок, а цяпер як чэрці выскакваюць. Адно другому кулакамі пад нос совае. Каб я так калісьці, як Дуньчына, выкручвалася, адразу прыдуркам палічылі б.
**Жанчына І.** А гляньце, як Маньчына апранулася? Чума нейкая. Галава — хоць ты гняздо рабі, а юбка, аж па зямлі цягнецца. Не пасуе ўжо цяпер гэтак.
**Жанчына ІІ.** Ты глянь, глянь, Яўдося! Дзямянчына зноў з іншым кавалерам. Валацуга!
**Бабуля.** Гэта цікавейшае, чым «Мода на поспех».
**Жанчына І.** Ну хопіць ужо, пайшлі суседачка, не будзем ім замінаць, тут нейкая слаўная кампанія сабралася.
**Жанчына ІІ.** Сапраўды пойдзем, будзе аб чым гаварыць у час сходу нашага кружка «Бабскія гісторыі».
**Віктар.** А хто ж там ідзе і дзеўку прыгожую з сабою вядзе?
**Бабуля.** Мае вы даражэнькія, гэта ж князь прыбыў да нас. Шчыра вітаем у нашых сціплых парогах! *(уваходзіць князь з дзяўчынай, якая нясе нейкую скрыню)*
**Князь.** І я рады вас бачыць! Вечар добры ўсім! *(звяртаецца да дзяўчыны)* Давай папялушка прысядзем. Стаміліся мы гэтай дарогай. *(сядае на крэсла, дзяўчына побач на падлозе)*
**Віктар.** Ну як, князь, пражываеш, хіба на жыццё на наракаеш?
**Князь.** *(дэкламуе)*
Каб мог жыццё пачаць аднова,
Пачаў бы ад касы і плуга,
Зямлі застаўся б шчырым другам.
Каб мог жыццё пачаць аднова,
Зямлю я славіў бы не словам,
А толькі мускулаў натугай.
Каб мог жыццё пачаць аднова,
Пачаў бы ад касы і плуга.
**Папялушка.** Тады я цябе не сустрэла б, мой мілы! І не пакахала б.
**Князь.** *(дэкламуе)*
У тваім каханні я не бачу болю
І таму не будзе тваё шчасце поўным.
Смутак у каханні — элемент галоўны.
У тваім каханні я не бачу болю,
Без якога шчасця не было ніколі;
Боль і радасць мусяць спалучыцца кроўна.
У тваім каханні я не бачу болю
І таму не будзе тваё шчасце поўным.
**Дзядуля.** А што ж гэта за скрыню вы прывалаклі?
**Князь.** Не скрыню, а сундук. Тут наш белавежскі скарб. Папялушка, пакажы!
**Папялушка.** *(вымае па чарзе кніжкі і паказвае ўсім)* Першы зборнік «белавежцаў» — «Рунь», які выйшаў у тысяча дзевяцьсот пяцьдзясят дзявятым годзе. А вось літаратурны альманах «Белавежа» нумар адзін з тысяча дзевяцьсот шэсцьдзясят пятага года. Затым выйшлі яшчэ «Белавежа» нумар два, «Белавежа» нумар тры і «Белавежа» нумар чатыры. А тут прыгожае выданне беларуска-польскага альманаха «Гасцінец». Дабаўлю, што паасобныя творы паэзіі і прозы «белавежцаў»

перакладзены зараз на польскую, англійскую, італьянскую, літоўскую, нямецкую, сербахарвацкую, славенскую, рускую, украінскую мовы.
«Букет белавежжа» *(паказвае)* — адна з навейшых кніжак. Спадар Сакрат, зачытайце нешта.
**Сакрат.** Табе нельга адмовіць, прыгажуня. Ды вось ... *(чытае)*
«Малітва да беларускага слова»
Беларускае слова, ты мая айчына! Мой сон ля вакна цветаліпнёвага, у раніцу пчаліную. І пошум пушчы стрункахвойнай, і весялосць густазялёная. Ты, як дзяцінства, ідзеш за мною. Слова матчынае, ты мая сляза! Мая трывога ў вечары кахання чыстаквяцістага, у садзе юнацтва. І чарнабрывы позірк дзяўчыны сарамлівай, і бяссонне зорнае. Ты, як лёс, паўстаеш у даляглядзе нязбытным. Слова роднае, суме мудры! Мая радасць неўгамонная, што часамі лунае вясёлкаю на небе краіны майго прызначэння.
І няспешна павучаеш мяне жыць сваім розумам, і гасцінцам ісці шырокім праз гады раз дадзеныя. Ты, як сябар шчыры, не пакінеш у няшчасці. Табе я, слова беларускае, кланяюся і веру. Бог ты мой! Ты мая рэлігія!
*(аддае кніжку папялушцы)* Схавай дзіцятка.
**Дзядуля.** Цудоўная ідэя з гэтым сундуком.
**Бабуля.** *(выглядаючы цераз акно)* Людзі добрыя! Нейкі рыцар прымчаў на белым кані, ідзе проста ў нашу кватэру.
**Дзядуля.** Хто ж гэта такі?
**Міхась.** *(уваходзіць, у руках кніжка)* Вось я і тут. Вы мяне клікалі і, як бачыце, два разы паўтараць няма патрэбы.
**Старшыня.** Гэта ж вядомая фірма — Міхась. *(да Віктара)* Дарэчы, малакасос яшчэ.
**Дзядуля.** Ну, Міхась, сыпані нам зернем сваіх слоў, як у жывым эфіры!
**Бабуля.** Толькі, каб мы не патрацілі гравітацыі.
**Міхась.** Значыць, што? Аб нашай пісьменніцкай долі і нядолі. *(адкрывае кніжку з закладкай «Рацыя», чытае)*
Часам заходзіў да пісьменніка ягоны лепшы сябра Уладзік. (...)
— Пішаш? — пытаў Уладзік і прысаджваўся побач.
— Не, — адказваў пісьменнік, калі якраз ні адным словам, ні адным сказам не павялічылася напісанае раней. І Уладзік пытаў далей:
— Чаму не пішаш?
І тады пісьменнік распавядаў пра словы, што таксама, бы трускалкі і кукуруза, спеюць сваім шляхам — часам ад сонца, часам ад дажджу. Часам днём, а часам ноччу.
А паскораныя нецярплівасцю вырастаюць вялікімі, пустымі гібрыдамі.
Але здаралася — адказ быў станоўчы: „Пішу”. І Уладзік прысаджваўся яшчэ бліжэй.
— Пра што пішаш?
— А, такое там, — пісьменнік бязрадна разводзіў рукамі. Яму хацелася сказаць пра словы, што даюць адказы на ўсе самыя істотныя пытанні, але дасканала ведаў — няма такіх слоў на ягоных старонках. І яшчэ шырэй разводзіліся рукі. — Пра нас пішу. Зрэшты — няважна.
— І я таксама буду ў тваёй кніжцы? — Уладзік зазіраў у экран камп'ютара. Можа шукаў там сябе, а можа ўглядаўся і глыбей, шукаючы адказу на пытанне: чаму дарослыя, сталыя мужчыны пішуць кніжкі?
Але на такія пытанні нават камп'ютару не адказаць.
**Князь.** Гэта ўжо не фантазія, гэта праўда. *(хтосьці стукае ў дзверы)*
**Бабуля.** Мяшок развязаўся. Я адкрыю дзверы, там нейкі паэт ашалелы. *(вяртаецца разам з Юркам)*

**Юрка.** Блін, спазніўся крыху. Кланяюся, вам шаноўныя. *(робіць паклон)* Чарапашка, Міхась *(робяць чарапашку)*
**Міхась.** Чарапашка, Юрка!
**Юрка.** *( углядаецца ў папялушку і пачынае дэкламаваць)*
ах! якая дзяўчына
бы ягада спелая
губы рабінавыя каралы
воблакам неба-тварык
вочы цёмнымі зорамі свецяць
у светлых валасах

травеньскі вецер
ах! што за дзяўчына
піў бы вусны твае
чытаў бы думкі твае
гарэў бы агнём з табой
ішоў бы дажджом з табой.

**Князь.** Цудоўны верш, пасля такога пачутага ўсе дзеўкі будуць пішчаць за табой. А папялушка мая!
**Бабуля.** А дзе ж наша ўнучка, стары? *(глядзіць на дзядулю, потым на дзверы)* Вось і яна! *(уваходзіць унучка з хлопцам)* А каго ж ты Зоська прывяла да нас?
**Унучка.** Гэта бард. Ён нам заспявае.
**Бард.** Я бацька бруднага беларускага блюза. Але мастакам слова заспяваю пра словы.
*(сядае, пачынае спяваць «Простыя словы», памалу ўсе збіраюцца вакол барда, разам спяваюць рэфрэн)*

Канец

# Змест






**Выдавец:** Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА

**Друк:** Intropack Jerzy Iwaniuk

Zrealizowano dzięki dotacji
Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji